— Была не была, а хлопца трэба купіць. Як гэта без спадкаемца роду застацца? Ды і скажы, няблага ўсё ж мужчынам нарадзіцца, праўда? — узнёсла-радасна спытаў ён. Я не ўтрымаўся, каб не кіўнуць галавой і не падтакнуць. Раптоўна мяне агарнуў вясёлы, імпэтны настрой:

— Памятаеш, як мы раслі і сталелі?..

У маленстве ўсім нам хацелася быць падобнымі на сапраўдных салдат у прыгожай вайсковай форме. У хлопцаў, што папрыходзілі з арміі, выпрошвалі фуражкі і рамяні, пятліцы і пагоны. Здорава шэнціла таму, чый старэйшы брат вяртаўся з войска, бо гэткаму шчаслівўчыку ўсё даставалася дарма і не трэба было яму ў некага нешта прасіць ці выменьваць. Андрэю Раеўскаму брат з арміі прывёз танкісцкі шлем, аксельбанты і афіцэрскі планшэт. Наш сябра пры ўсіх вайсковых аксесуарах глядзеўся дужа эфектна, непаўторна, і таму яму страшэнна зайздросцілі. А мне, мабыць, як нікому іншаму, не шэнціла: у сям'і я рос самы старэйшы і заўсёды шкадаваў, што ў мяне няма дарослага брата-апекуна. Усяго, што мне ўдалося раздабыць, дык гэта выцвілую, амаль белую пілотку, і тую без зорачкі, ды ў дзеда Ларыёна старую партупею. Таму зразумела, чаму хлопцы «ахрысцілі» мяне «партызанам». Але ўрэшце фартуна ўсміхнулася і самаму няўдачліваму: Андрэй, наш камандзір, ахвяраваў мне шлем і прызначыў сваім першым памочнікам і целаахоўнікам. Такое раптоўнае, непрадбачанае рашэнне ашарашыла хлопцаў, бо кожны з іх хацеў бы зазнаць гэткага гонару, тым больш не адмовіўся б ад чорнага, зусім новенькага шлема. Андрэеў дзядзька Мікола, міліцыянер з горада, у падарунак пляменніку прывёз генеральскія пагоны і афіцэрскую фуражку. Той, здаецца, міжволі і падахвоціў Андрэя стварыць «армію»: «Важнецкі выгляд маеш: сапраўдны прапраўнук генерала Раеўскага — таго, што ў Барадзінскай бітве праславіўся. Толькі батарэі ў цябе нямашака...»

Назаўтра Раеўскі-малодшы ўжо быў не проста камандзірам нашага войска, а бушылаўскім генералам. Чаму бушылаўскім? Бадай, з-за Андрэевага імпульсіўнага характару. І яшчэ — Бушылава было месцам дыслакацыі нашых сіл у густым зарасніку хмызняку, дзе калісьці ляжала голая пустка і бушавалі вятры ды завеі. Тут мы выкапалі акопы, зрабілі тры зямлянкі, у адной з якіх размясціўся штаб і назіральны пункт...

— Усё ж лепей пісюшак малых расціць, чым у нашы гады зямлю парыць. На свет не паглядзеўшы, у магілу сысці — каму хочацца? Скажаш, табе, мне ці таму Андрэю? — прамовіў Дзіма і пытліва глянуў на мяне.

— Андрэй — гэта іншае. Ён на валаску ад смерці трымаўся, — неяк вяла адказаў я, не маючы жадання гаварыць пра афганскае пекла, з якога цудам выйшаў жывы наш агульны сябар маленства. Потым дадаў: — І школьніку зразумела, што на вайне крывёю пахне...

— Каб жа так было ясна, то не рваліся б туды, як Толік Шкірыч. Кажа: або пан, або прапаў. Маўляў, вярнуся — буду чалавекам, а так прыйдзецца гібець нароўні з усімі.

— Толік — не ўсе, — запярэчыў я, падняўся і падышоў да кніжнай паліцы: Дзюма, Бальзак, Лондан, Жуль Верн, Быкаў... — Чытаеш? — пацікавіўся, згадваючы, як у школе Дзімыч ленаваўся прачытаць нават праграмны твор па хрэстаматыі.

— Ды не, часу няма. Тома купляе: дзеці вырастуць — няхай чытаюць.

Увайшла Дзімкава жонка і папрасіла перанесці са сталовай у залу стол-кнігу...



Што б ні казаў Андрэй — яго слова было свята, бо сярод нас ён вылучаўся прыкметна: самы рослы, дужы і смелы ваяка. А галоўнае — ён заўсёды верхаводзіў, калі мы «ваявалі» з непрыяцельскай зброд-дружынай, якая збіралася ў вялізным кустарніку ля Маладнікоўскай грэблі. Маладнікоўцы з гонарам называлі сябе «дзікай дывізіяй», а на чале іхняга войска стаяў атаман Грышка Голуб. З Андрэем мы ніколі не адступалі і ў рэшце рэшт заўсёды перамагалі.

Аднак напачатку я знаходзіўся ў стане маладнікоўцаў, пакуль тыя не выключылі мяне са сваіх радоў як маральна няўстойлівы элемент. Ды і каму хацелася такога няўдалага ваяку, які рэдка каго «забіваў», а найчасцей яго самога бралі на мушку і «падстрэльвалі», як цецерука. Таму двойчы я трапляў у палон, і калі там атрымоўваў ад Андрэя пару пякучых пстрычак у лоб, то адразу выдаваў стратэгічныя планы сваіх. Грышка штодня грозіўся выгнаць мяне з войска, злаваў і на чым свет стаіць ганьбіў мяне, калі я пачынаў апраўдвацца. З прыкрасцю думалася, што ўсё ў мяне не так, як у людзей. Нейкая ўнутраная сіла падштурхнула да рашучага кроку: я добраахвотна здаўся бушылаўцам у палон. Але яны мяне абсмяялі і з галёканнем, крыкамі выправадзілі са сваёй тэрыторыі. Андрэй хлопцаў з Карліна, другога канца мястэчка, у сваю армію не браў: мы лічыліся даўнімі і заклятымі ворагамі. Паправіць што-небудзь стала немагчыма: пераможцы не ўзялі да сябе, праперлі, каб і духу майго не было чуваць, і сваіх угнявіў — ад варот паварот паказалі. Памятаю, як па дарозе дахаты горка плакаў, што са мной так абышліся, і здавалася, хлопцы, увесь белы свет назаўсёды супраць абрыдлага недарэкі ды здрадніка. Цэлы вечар румзаў, каўтаў слёзы, ныючы, чаго мяне маці нарадзіла на такія мукі. Андрэй, мусіць, учуў пакуты грэшніка і злітасціўся: праз дзён колькі прыйшоў да мяне і сказаў, што бярэ ў сваю армію. З Дзімкам Чомавым нас наперамену паставілі ахоўваць зямлянку, дзе была схавана зброя: драўляныя аўтаматы, вінтоўкі, гранаты. Маладнікоўцы Віця Байкоўскі і Коля Сушко захацелі прабрацца ў нашу схованку і выкрасці зброю, але я іх прыкмеціў і нарабіў крыку. Прымчаліся са штабной зямлянкі хлопцы і айда за варожымі дыверсантамі. Так што нашых абяззброіць не ўдалося.

— А ты малайчына, — пахваліў мяне Андрэй. — Забіраю цябе ў штаб. Будзеш мая правая рука — намеснік і «браня»...

— Пэўна, што распанеў. За тры гады першы раз у хату нос паказаў. Не брыдка, га? — рашыў пасароміць мяне Дзімыч. — На бацькоў і тых забыўся, не аказваешся: ні слыху ні дыху. Калі ні папытай пра цябе, то ў адказ плячыма паціскаюць...

— Работа, сам ведаеш, — заспяшаўся рэабілітавацца сябе я.

— Э, ты гэта кінь! Работа — не воўк, — упэўнена запярэчыў Дзімыч. — Што ты, у далёкім плаванні ці ў космасе працаваў?

— Не.

— Але ж. А то прывыклі там у горадзе ўсё на работу спісваць. Адбыў ты ў сваім кабінеце восем гадзін — і ўсё. Ляжы, газетку чытай і паплёўвай сабе. Гэта не тут у калгасе, што прасветлай гадзіны не бачыш. Добра, што сёння неба парвалася і нядзеля, а так бы да ночы руль сціскаў...

— Але ж і жонку паспяваеш, — не вельмі прыстойна падкалоў я, аднак адразу адчуў гэта і дадаў: — Не трэба змрочных фарбаў, чаго там плакацца.

— Акурат падмеціў, ды мяне шпількамі не праймеш. Я тваю неяк палавіну праз Кірманаў бінокль бачыў: выціснуў ты з яе ўсё, што мог, — сказаў Дзімыч, глянуўшы на мяне хітрым вокам.

— Мусібыць, аптычны падман,— узяў я пад абарону сваю жонку.

— Ладна, хай сабе і так. А чым ты займаешся ў выканкоме?— пераключыў гаворку Дзімыч на іншую тэму, нават далікатную, няёмкую для мяне самога.

— Кватэры раздаём. А дом у цябе шыкозны, абстаноўка што трэба,— адказаў я і абвёў позіркам залу, думаючы, што гаворка пацячэ ў іншым кірунку.

— Усё з мазаля, дружа,— прамовіў ён, адмыслова прыцмокнуўшы губамі. Але ўхіліцца, як я, ад прамога адказу не захацеў, а бадай, і не збіраўся:— Бачыш, якая гамэрня носіцца. На калым езджу: каму соткі папспружыную, гной прывязу ці дровы з лесу... А калі што дрэнна ляжыць, то і пацягну: не ўкрадзеш — не пражывеш. А ты, скажаш, з Месяца зваліўся? Нябось, многа хто кватэрку цёплую хоча мець. А?

— Многа, нават завельмі.

— Тота ж. А памятаеш, як у Кірмана сцібрыць бінокль захацелі, ды Андрэй не пагадзіўся?..

У сляпога на адно вока нарыхтоўшчыка сыравіны, ці проста анучніка, Кірмана ўсім хлапечым гуртам пайшлі выдурваць палявы бінокль. Нехта папярэдзіў: «Кірман дусту на галаву насыпле або звяругу нацкуе».

— Анягож! Мо яшчэ і на электракрэсла ўздзямберыць. Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць,— працадзіў праз шчарбатыя зубы Дзімка Чомаў, які і прынёс навіну пра так патрэбную нашаму войску рэч. Хтосьці прапанаваў: «Трэба сцібрыць!» — і большасць пагадзілася на гэтым. Аднак Андрэй запярэчыў:

— Што мы, злодзеі ці шайка якая? У анучніка ўсё купляецца, мяняецца, прадаецца. Пойдзем на перагаворы...

— А мне ўсё роўна,— незадаволена кінуў Дзімыч.— Я, напрыклад, магу красці, магу і не красці...

— Дзядзечка Кірман, аддайце нам бінокль, з якім ваша Розка гуляла. Яна ж разаб'е яго ці згубіць, а нам ён во як трэба,— напрамую выпаліў Андрэй, пстрыкнуўшы ўказальным пальцам па горле.

— Гэта добра, што просіце. А каб узялі ды ўкралі, то адразу скумекаў бы хто — здалёк пачаў анучнік.— У міліцыю ўсіх пасадзілі б — і ўсё. Ясна, што на вайне без бінокля як без рук. От галёкаеце, крычыце ў Бушылаве, а па вёсцы гул ідзе. Няма вам чым заняцца. Бацькі вас не ганяюць, распуснікамі расцяце,— ужо бурчаў пад нос Кірман.

— Не, мы хлопцы харошыя. Шкоды не робім,— запярэчыў Андрэй.— Дык мо дасцё?

— От будзе апраўдвацца — і сё. Вазьму зараз ды прапру з двара — і гамонцы канец,— павысіў голас анучнік, бо яму, мусібыць, не спадабалася, што нейкі малакасос гэтак настырна перапыніў яго. Падумалася, што нічога ў нас не атрымаецца. Кірман даволі лагодна перайшоў да справы:

— Бінокль вялікія дзеньгі стоіць. Рублёў так трыццаць, а не, дык і ўсе сорак. За так я вам не аддам. Збярыце кілаграм з восемдзесят алюмінію, медзі — і сё, гаворкі не будзе.

— Згодны,— сказаў за ўсіх Андрэй, і мы неахвотна папляліся з двара.

— А каб яму восемдзесят скул!— ускіпеў Дзімка, як толькі ўсе мы ладнага адышліся ад Кірманавай хаты.— Здзірца праклятьі! Пайшлі выцыганьваць на сваю галаву. Лепей бы ўкралі!

— Угавор даражэй за дзеньгу — і сё,— голасам і мімікай перакрывіў Кірмана Андрэй.



Адразу гурт выбухнуў смехам і ўжо жвавей, гулліва падаўся да сметніка, каб знайсці каштоўныя металы...

— Моцная твая «саматканка». Ліха яе, аж дух заняло,— азваўся я пасля таго, як перастаў нюхаць кавалак ацеслівага хлеба,— згарэць можна.

Дзімыч шырока заўсміхаўся, падсоўваючы да мяне талерку з каўбасой і скрылькамі вэнджанай паляндвіцы:

— Кінь блазнаваць. Маёй пшанічнай толькі лячыцца трэба, а ты спаліць сябе баішся. Гэта ж не атрута якая-небудзь, што Раеўскі стары каўтаў.

Як толькі Дзімыч знячэўку згадаў пра бацьку Андрэя, у мяне само сабой вырвалася запытанне:

— Няўжо не мог стрымаць сябе дзядзька Ваня?

— Дзе там утрываеш. Казаў, што абрыдла жыць на гэтым паганым свеце. Неяк яму рубля даў, дык ён — шмыг у магазін і з вадкасцю для галення выскачыў. Тут жа і выжлукціў. Кажу яму: «Што вы робіце, гэта ж «Консул»... А ў яго з кашлем праз горла вырываецца сіп нейкі, а не голас:

— «Консул», «Пасол», «Бло», «Жасмін»... Да лямпачкі, абы здохнуць, не бачыць і не чуць пра... Мацьіх туды...

— Трэба зайсці да Андрэя,— памаўчаўшы, упэўнена прамовіў я.

— Ага, давай! Толькі глядзі, каб гуз табе на лоб не прыклеіў. З ім мовіш як чалавек, а ён рычыць немаведама чаго. Ці то злы на ўвесь свет, ці большага велікамучаніка і героя на ўвесь Саюз няма...

Хто б мог падумаць: зацюканы, а пасля ахаяны і зняслаўлены, ды стаў першым памочнікам камандзіра непрыяцельскага войска. Грышка са сваёй хеўрай аж млелі, каб дзе-небудзь падлавіць такую важную птушку. Кожны дзень непрыкметна вяртацца дадому рабілася цяжэй. Неяк надвячоркам, удала ўпаляваўшы персону грата, хлопцы так адчыхвосцілі мяне, што ў тыя хвіліны я і пятаму заказаў. «Цярпі, казак, атаманам будзеш»,— падбадзёрваў я сябе, прыкладаючы мокрую, халодную анучу да вялікага сіняка пад правым вокам. Мяне радавала, што цяпер маю галаву ацанілі нават новыя ворагі: як-ніяк, а паплечнік самога бушылаўскага генерала мужна вынес усе ўдары, не вымавіўшы ні слоўца.

Хутчэй за ўсё апынуўся ў штабе я таму, што добра маляваў і пісаў шрыфтавымі літарамі. У нашага «генерала» саспела ідэя чапляць на грудзі ордэны і медалі, каб маладнікоўцы бачылі, што мы не абы-хто, а сапраўдныя заслужаныя ваякі і героі. Хутка я пачаў пісаць указы аб узнагароджанні смелых і адважных. Пасля «бою» Андрэй прымаў рашэнне, каго чым узнагародзіць. Былі ў нас і Героі Бушылаўскага Саюза, і кавалеры ўсіх ордэнаў. Я знаходзіў старыя часопісы, даставаў паштоўкі і газеты з адбіткамі ордэнаў і медалёў. У школьнай бібліятэцы з нейкай энцыклапедыі неўпрыкмет лязом выразаў старонкі з узнагародамі СССР. Пасля таго, як Андрэй уручаў каму-небудзь ордэн ці медаль, я маляваў адваротны бок узнагароды паштовым клеем і прыладжваў яе на пінжак ці кіцель. Менш за ўсё ўзнагарод было ў Андрэя і ў мяне. У нашага «генерала» на грудзях красаваўся ордэн Бушылаўскага Сцяга, а ў мяне за адвагу на пасту і чэснае выкананне абавязкаў — ордэн «Знак пашаны». Не шэнціла на ордэны Дзімку Чомаву, у яго былі толькі медалі, але іх размясцілася на пінжаку каля пятнаццаці, і баявы сябра, здаецца, ганарыўся гэтым. Дзесьці праз два тыдні Андрэй прынёс каляровы партрэт Самога. На грудзях у маршала з чорнымі брывамі зіхацела столькі ўзнагарод, што вочы разбягаліся: па ордэнскіх планках мы і не ведалі, дзе якая, але па чатырох Залатых Зор-

ках было бачна, што гэты чалавек у краіне Самы вялікі і заслужаны Герой. Андрэй нейк нерашуча, але нязмушана сказаў, што і яго подзвігі пара адзначыць па справядлівасці. Выразаўшы на мундзіры маршала чатыры зоркі, я пачаў пісаць указ. У тыя хвіліны, калі наш бушылаўскі генерал станавіўся чатырыжды Героем, баявыя пасты страцілі пільнасць, і гэта дало магчымасць Грышкаваму войску напасці знянацку і перамагчы. У палоне з Андрэя здзерлі генеральскія пагоны, парвалі «Залатыя» Зоркі, а я, як здраднік ды варожы паслугач, атрымаў моцную аплявуху ад атамана, які, напэўна, лунаў на сёмым небе. Перамога ўсё часцей была на баку маладнікоўцаў: ці то Андрэю, як камандзіру, не ставала ўпэўненасці ў сабе, ці то мы развучыліся «ваяваць», а хутчэй за ўсё нам проста надакучыла гэтая гульня ў вайну. Мусібыць, мы крыху падраслі і пасталелі...

Восень расплакалася не на жарт. На другі канец мястэчка, як і заззычай, ужо ў туфлях не пройдзеш. Пераабувацца не хацелася. Я намацаў у кішэні ключы і падаўся да машыны, што стаяла пад вялізнай паветкай, пазіраючы санлівымі, мокрымі вокнамі. Выехаў на вуліцу. Падаўся зачыніць браму, як мяне аклікнуў прыемны жаночы голас:

— Здрастуйце!

Азірнуўся і ўбачыў, што па той бок вуліцы абыходзіць лужыну стройная, вабная дзяўчына ў белым у аблiпку халаце і сініх гумавых боціках. Верку я ледзьве пазнаў: здаецца, яшчэ толькі ўчора бегала горкае дзеўчанё, а глядзі ўжо, мабыць, нявесціцца. «Прыгожая»,— мільганула ў галаве захапленне, і я спытаў:

— Куды гэта?

— На работу, у бальніцу,— азвалася Верка.

— Сядай, суседка, падвязу. Якраз тудэй еду, да Раеўскіх.

— Дайду, тут рукой падаць.

— Сядай, не вагайся. Хутчэй, як на машыне, не будзе.

— І то праўда,— сказала яна і накіравалася да машыны.

Калі Верка садзілася на сядзенне, у яе разышліся полы халата, якія яна хуценька паправіла загарэлай, з дагледжанымі кiпцікамі рукой.

— Як працуецца?— пацікавіўся я, плаўна націскаючы на газ.

— Так сабе,— адказала яна.

— Што, зарплата малая?

— Грошы не галоўнае. Працаваць няма з кім.

— Значыць, калектыў дрэнны?

— Ды не. Я ж кажу — лячыць няма каму. Адзін урач на бальніцу — старая, глухая Грэчыха, і тая гінеколаг. Праўда, залетась маладыя працавалі, муж і жонка. То год пабылі і паехалі, бо старшыня калгаса Яцына адмовіўся будаваць ім хату.

— Ох гэтае жыллё. І тут, як у горадзе, праблема,— прамовіў я.— Усім нармальна жыць хочацца. Але ж не адразу гаршкі абпальваюць.

— Абы ў Яцыны харам на ўсю акругу...

— Што зробіш, гэткае жыццё.

— Ану яго з такім жыццём,— абыякава сказала Верка, хоць неяк важка махнула рукой.

— У цябе ўсё яшчэ наперадзе,— узбадзёрваючы, прамовіў я і глянуў на яе мілы тварык.

— Вот я і прыехала,— не тоячы засмучэння, сказала яна. Памаўчаўшы, выдыхнула:— Хораша, ціха машына ідзе. Я ўпершыню на такой катаюся...



— А хочаш, Верка, дамчу на край свету?— па-змоўніцку прапанаваў я, спыняючы сваю «ластаўку».

— Другім разам, а то хворыя без працэдур застануцца.

— А калі, як не сакрэт?

Яна адчыніла дзверцы, звонка смеючыся:

— Пасля дожджыку ў чацвер.

Вера ўжо ўзбягала па шырачэзных драўляных прыступках, калі я ўспомніў, што еду да Андрэя. Нейкая ўнутраная сіла неадольна цягнула ўбачыць яго...

Пад насамі ў нас прабіваліся вусікі, а твары пакрываў першы цнатлівы пушок. Неўпрыкмет мы пакінулі дзіцячыя забавы, выцягнуліся, пашырэлі ў плячах і сталі заглядвацца на дзяўчынак. З класа сёмага Андрэй і Лідка ўжо былі жаніх і нявеста. У нас, іхніх аднакласнікаў, не ўзнікла нават сумнення, што ў дарослым жыцці гэтак усё і будзе. Андрэй не баяўся хадзіць да Лідкі дахаты, у суботу вечарам дапазна танцаваў з ёй у клубе, пакуль адтуль іх не праганяў дзяжурны настаўнік. Я зайздросціў Андрэю, бо мне самому снілася яго Лідка. Асабліва пасля таго вечара, калі яна мылася з маці ў калгаснай лазні, а мы з Дзімкам Чомавым засяроджана глядзелі праз запацелую, толькі што ўстаўленую шыбіну на яе зграбненькі стан. Заставалася шкадаваць і раўнаваць, што ён, Андрэй, троечнік і бесклапотны «фраер класа», як ахрысціў яго наш класны Плёсця, Лідчына каханне, гонар і апора. Разам з Лідкай мы былі ў рэдкалегіі школьнай насценгазеты. Неяк атрымалася, што над лістом ватмана мы засталіся ўдваіх. Я адразу гэта адчуў, сэрца затахкала, а хуткакрылыя думкі ўсё мацней схілялі да дзеяння. Імгненна я абхапіў Лідку рукамі і няўмела чмокнуў. Адразу на маёй шчацэ Лідка адпячатала пяць сваіх пальчыкаў. Тады я падумаў, што яна ніколі не дазволіць мне пацалаваць яе, пагладзіць чарнявыя коскі, а тым больш узяць і пасадзіць на свае калені. Лідчыны бацькі, калі сустракаліся з маімі, часта гаварылі, які слаўны жаніх расце для іхняй дачкі. Яны, бадай самыя заможныя сем'і ў мястэчку, гатовы былі парадніцца хоць тады.

— Але ж і сапернік ёсць,— заўважыла неяк мая маці, маючы на ўвазе тое, што да Сапешкаў бегае Андрэй, сын прапойцы Раеўскага.

— Ай, што гэта за прэтэндэнт. Мы ад яго як бачыш адчыкрыжымся,— адказала Лідчына маці.

Сапраўды, іхняму сяброўству напачатку не прыдавалі значэння: паблытаюцца трохі ды перастануць. Ведама, зелень смаркатая. Калі Лідка была ў дзевятым, Сапешкі забаранілі Андрэю з'яўляцца ў іх дома. Бацькі пачалі баяцца за дачку, аднак яна не горш за іх ведала, адкуль бяруцца дзеці. Не толькі Лідка, але і іншыя нашы дзяўчаты паспелі пакаштаваць спакуслівы плод, ад якога некалі пачаўся род чалавечы. Цыцамята, а так хлопцы празвалі з-за вялікіх грудзей Вальку Лушчык, кінула школу і выйшла замуж за шафёра раённай аўтабазы. Задраўшы свой кірпаты нос, яна больш не віталася з настаўнікамі. Нават малодшая на клас Тоня Гуц ужо неаднойчы дрыжэла ў абдымках Бурноса — учарашняга жанаціка, а цяпер юрлівага Дон Жуана і выхвалякі. Я ж тым часам саромеўся падступіцца да дзяўчат, і яны пагардліва глядзелі на такіх, як я. Думалася, што я на большае і не здатны, толькі як цікаваць праз акно лазні за голай Лідкай. Не, яна зацьміла сабой усіх, і цяпер мне ніхто не быў патрэбны. Я сніў яе, фантазіраваў, уяўляў часам дазволенае рабіць толькі дарослым. Усё гэта насіў у сабе, і ніхто пра гэта не ведаў...

Ён касавурыўся на мяне, пасля кінуў вельмі пранізлівы, недружалюбны позірк. Хутка мне зрабілася не па сабе, бо здалося, Андрэй вось-вось з ярасцю плясне па твары. Аднак мой выгляд раптоўна стаў для яго абыкłым, маўляў, і зважаць не хачу на куплены не на свае грошы касцюм-тройку і на тое, як з шыкам пад'ехаў на цесцевай «Волзе». Наўрад ці маглі мы пагаварыць ціха, даверліва, як старыя знаёмыя. Андрэй, бачна, не мог не адчуць, што зараз я не той, які быў чатыры, пяць год назад, а стаў іншы: шчаслівы прагматык, які здолеў вельмі разумна, мэтанакіравана арганізаваць сваё жыццё. Ведаў бы Андрэй, як шашалем патачыў маю сэрцавіну гэты дабрабыт, раскоша і ўяўнае шчасце, бо я забыўся, што ў чалавека ёсць свой голас, свае турботы і цяжкасці, нават ворагі. Але грэх скардзіцца, займацца нейкім самааналізам, калі яшчэ ніхто цябе балюча не выцяў, не зняважыў, калі табе не прыйшлося енчыць ад несправядлівасці ці даводзіць сябе да атуплення і нізасці, каб нешта змяніць у быдлячым існаванні. Відаць, душэўны дыскамфорт настае і ад дастатку, раптоўнага перанасычэння жыццём. Ды што ў тым благога, што чалавек жыве добра, нават вельмі добра... І як зрабіць крок да такога жыцця?..

Пасля школы мы з Лідкай паступілі ў адзін інстытут, толькі на розныя факультэты. На ўступныя экзамены нашы маці разам з намі ехалі ў адным купэ.

— Зрэзаць нічога не стоіць і медаліста, — гаварыла мая. — Ім трэба сваіх «блатных» на вучобу пабраць.

— Паслухайце, Максімаўна, — увесь час так пачціва звярталася Лідчына маці. — А яны, настаўнікі, куды ў школе глядзяць. Сямёра медалістаў сёлета напладзілі. Банькоўскай, Адасёву сыну «ліпу» паставілі, а яны ж у матэматыцы, як кажа Лідка, ні бум-бум. Цягнулі за вушы немаведама чаго. Ну пралезуць у які педінстытут ці тэхнікум, ды і ўсё...

— Нашых і без блату прымуць, — казала маці з усведамленнем вялікіх здольнасцей свайго сына.

Моцнага хвалявання, а тым больш боязі за нас у матак не было, бо ведалі, хоць і крывілі душой, што з нашай далейшай вучобай даўно ўсё ўладжана і наперадзе засталіся толькі прыемныя фармальнасці.

Андрэй і не збіраўся ісці вучыцца. Ён уладкаваўся тут жа, у Мінску, рабочым на заводзе. Апякаў сваю Лідку, ледзь не кожны дзень прыходзіў у інтэрнат, разам з ёй ехаў дамоў. Лідчыны бацькі ўжо, здаецца, не былі катэгарычна супраць іхняга сяброўства. Андрэй паабяцаў, што пачакае, пакуль Лідка закончыць вучобу. Хутка Раеўскі пайшоў у армію і трапіў у Афган, а неўзабаве ўсе мы даведаліся, што ён узнагароджаны ордэнам. Цяпер ён, Андрэй, стаў гонарам школы, вёскі, а не мы, медалісты, што сушылі мазгі ў сталічным ВНУ. Яго чакалі ўсе, а не толькі Лідка. Настаўнікі ў інтэрв'ю карэспандэнту раёнкі распавядалі, якім прыкладным і актыўным вучнем быў Андрэй: той Раеўскі, які з «рыпам» адказваў на тройку, той актывіст, які не меў аніякага даручэння і ігнараваў іх; той камсамолец, які на прыёме ў райкоме камсамола не змог назваць яшчэ дзве адказныя пасады таго Самага і Самага-Самага, чые вышэйшыя ўзнагароды ў маленстве кінуліся ў вока і не давалі спакою доблеснаму бушылаўскаму генералу...

— Не, ты не зразумееш да канца, што такое вайна, — крычаў Андрэй, прыўзняўшыся над сталом. — Што ты мне Талстой ды Талстой. Гэта ясна, што менш твайго кніжкі чытаў. Але дапяць сваёй мазгаўнёй нешта магу...

Я спрабаваў яго супакоіць, бачачы, што ён зусім зазлаваў і не можа





стрымаць сябе. І як гэта атрымалася, што я расплявузгаўся і пайшоў у «лабавую»? Лепей бы ціхенька, як мыш рудая, пасядзеў і паслухаў чалавека. Ды і ці маю я права спрачацца з ім, хто на сваёй скуры адчуў, па чым фунт ліха на вайне, што такое жыццё і смерць? Хіба можна яму рабіць балюча, гаварыць пра Афган і «духаў», калі і тут яго сэрца ўжо пакалечана незажыўнымі шрамамі?

— Так, не па волі сваёй апынуліся мы ў мясарубцы. Дзеля чаго? — нервова гаварыў ён. — Вы нам адкажыце на гэта. Лічыш, бачна, што там у нас мазгі атрафіраваліся?

— Я так не лічу. І давай спынім размовы на гэтую тэму, — катэгарычна запярэчыў я.

— Не! Ты паслухай, што я табе скажу, — гарачыўся Андрэй. — Гэта вам сваім розумам цяжка дайсці, хто мы і як апынуліся там, кім маглі стаць тыя, што не вярнуліся адтуль. У нас хлопец быў з Масквы, якія шчымлівыя вершы пісаў, не горш за Вазнясенскага. Уласнай крывёю пісаў... Чаму ж вы маўчалі, калі пачалі думаць іначай, зразумелі больш, чым мы? Няшчасны і бяспраўны народ! Што вы маглі сказаць тлустым, раскормленым тузам? Інстытут самазахавання спрацаваў, багна самазаспакоенасці ўцягнула вас па вушы. Я ж быў сляпы крот, як і іншыя мае аднагодкі. Ці ўсвядоміў ты хоць зараз, у якой цемры і духаце мы жылі? Там, у мясарубцы, як ратунак, надышло прасвятленне і я адчуў, што наша фізічная смерць не страшная, ваша ў твані і смуродзе жахлівей. І тут мучыцца, як рыбіна без вады, я не змог бы болей, не здолеў бы трываць, адчуваць, як тлее і гіне мая душа! Таму і Лідка не выжыла ў гэтым гідкім балоце...

Я пакідаў інтэрнат, дзе жыло энергічнае і бесклапотнае студэнцтва. Тут, у шматпавярховым, тысячавокім гмаху, марылі і кахалі, здраджвалі і, здараліся, канчалі самагубствам. Я думаў пра адно, пра жаніцьбу на дачцы старшыні гарвыканкома, мэра слаўнага і старажытнага горада.

— Як гэта хутка людзі паддаюцца хамут надзець на шыю? — больш за ўсіх недаўмяваў у пакоі Шурка Калевіч, заядлы зубрылка і няшчасны троечнік.

— А мо самім трэба цугляць кабылку? — смеючыся, пытаў я.

— Ну-ну. Мо інтэркабылу якую? — зарагатаў Шурка.

— Ой, глядзі, каб плакаць не прыйшлося, — прагучала ў маім голасе сяброўскае папярэджанне.

Надзвычай выгадная «партыя» не прагарэла: будучая жонка была на пятым месяцы цяжарнасці. Наўрад ці дараваў бы я сабе, каб упусціў шанц стаць чалавекам і сцвердзіцца ў жыцці. Інакш мяне закруціла б няўмольная рэчаіснасць — праца на вёсцы, або апрануў бы на два гады прыгожую ваенную форму, якую так хацелася насіць у маленстве...

Андрэй — герой, кавалер ордэна. А я, хоць і вучаны, але ўсё роўна, як казала бабка Стася, памру дурнем. Адчуваю, што па-нядобраму пачынаю зайздросціць Андрэю, бо героем я не стаў бы, мяне абавязкова забілі б ужо ў першай перастрэлцы. А яго не забілі, ён выжыў, хоць і вярнуўся з вайны праз чатыры гады: пад заканчэнне службы быў паранены і трапіў у палон. Бацькам прыйшла папера, што іх сын прапаў без весткі. Маці было не пазнаць: хадзіла ўся ў чорным, ціха і непрыкметна, як цень. Бацька пачаў піць усялякую поскудзь і атруціўся. Лідка заходзіла да Раеўскіх, падоўгу сядзела з маці, напаўжывой і напаўмёртвай...

Хай бы ўсю праўду пра Лідку сказаў яму хто іншы. А мо ён і так усё ўжо ведаў да драбязы, а я толькі паўтарыўся і быў неміласэрны ў дачыненні да збалелай салдацкай душы? Напэўна, яму невыносна цяжка даліся спакой і раўнавага, бо хіба льга змірыцца з тым, што так жудасна і жорстка абышоўся час з лёсам любага чалавека.

Здаецца, ён прашаптаў тую просьбу. Перад маімі вачыма з цяжкасцю паўставала аблічча Лідкі — той, што стамілася ад пакут і перажыванняў, трапіўшы ў чорны вір рэчаіснасці. Андрэй, бадай, і зараз не ў сілах паверыць маім словам, бо столькі гадоў ён быў апантаны і жыў іхнім узаемным каханнем, цеплынёй, пяшчотай...

Яна, здавалася, перамянілася на вачах. Яе нельга было пазнаць. Разам з дзяўчатамі-пяцікурсніцамі Лідка бязбожна распілася. Хутка ў інтэрнаце пра яе пачалі гаварыць як пра тую, што не адмовіць, толькі ствары настрой. Ідучы з букетам руж на спатканне, я выпадкова сустрэў Лідку ля «падковы» — гастранома, дзе яна «затарылася» шампанскім і гарэлкай.

— Дабрыдзень, зямлячка, — паздароўкаўся і спыніў яе.

— А ў Рамэо раман. Чула, — адказала на прывітанне аднакласніца і велікадушна ўсміхнулася. — А я вот на пабягушках, гасцей чакаем.

— Лідка! Я чуў... — толькі і выціснуў з сябе.

Раптоўна нашы позіркі скрыжаваліся, але яна адвяла вочы ўбок і з халоднай бляклацю на твары прамовіла:

— Між іншым, я дваццаць адзін год Лідка. Ну чаго занямеў? Мо і ў каханні так прызнавацца будзеш?

Сказаў я ўжо рэзка, грубавата і, бачна, не тое, з чаго варта было пачынаць:

— Слухай, перастань маяцца дурасцю.

— Рамэо, не трэба, а! — злосна асекла яна.

— А калі не адстану?

Лідцы, вядома, не спадабалася маё пытанне, бо яна, зморшчыўшы напэцканыя павекі, мацюкнулася.

— Ну што ты лезеш мне ў душу?! Мяне... — недамовіла яна, а потым пагрозліва сказала: — Паспрабуй толькі продкам накляўзнічаць! Сама задушу, Рамэо, вочы выдрапаю... Ідзі з богам да Джульеты, — і неяк маркотна, зморана пайшла да пешаходнага пераходу.

У той дзень Лідку бачылі п'яную ў гурце замежных студэнтаў. Яна смаліла цыгарэту і дзіка рагатала. Не ведаю, як можна было спыніць яе, ачмурэлую і ашалелую. Пры сваіх клопатах і інтарэсах мне было не да Лідкі.

Яе знайшлі ў ваннай інтэрната голую, з ускрытымі венамі. Для бацькоў гэта быў нечаканы і страшэнны ўдар...

Ён, хмуры і пануры, слухаў зацята і, здавалася, не дыхаў. На лацкане пінжака блішчэў ордэн, які нагадваў барвова-чырвоны згустак крыві. І раптам яго закалаціла, ён уткнуўся мне ў плячо, заплакаў, уздрыгваючы:

— Чаму ты не вырата-ваў Лід-ку?..

Заснуў я толькі пад раніцу: у галаве бязладна біліся думкі, у скронях доўга гучна пульсавала кроў. Мроілася, што я гляджу праз Кірманаў бінокль удалячынь, дзе на перакрыжаванні шляхоў стаіць крыж з распяццем Хрыста. У абліччы змучанага і зняволенага Бога мне бачыўся Андрэй, які, перш чым памерці, прарочым позіркам вачэй паказваў на пакутны шлях заўтрашняга дня...

Мал. **Л. Кальмаевай.**



## *Раман Тармола*

■

Штодзённа я заглядваю ў сябе
І бачу наваколле чалавецтва,
Якое то прыродай назавецца,
А то царом прыроды...
У журбе

Я заўважаю,
як старэе цар
І як гібее,
прахне яго царства
Ад неразумнасці
і марнатраўства
Яго падданых і яго ахвяр.

### АТЛАНТЫ

Рызыкоўныя—
не рызыканты,
З малачком зялёны малачай,
А сапраўднай мужнасці атланты,
Што трымаюць подзвіг на плячах.

На вачах у свету можна перці
На ражон...
Але куды смялей
І пайсці на смерць...
І не памерці...
І працягваць мужна жыць далей.

■

Нябачныя снарады
Кладуцца ўсё бліжэй...
Людзей старых пагляды
Мутней... і даражэй.

Пад музыку выносяць.
Спачын цяпер нагам.
І запаўняе восень
Сабой людскі прагал.

Слоў дарагіх і танных
Пяшчота —
б'е пад дых...
...І кветкі растаптаны
Крокамі жывых.

### ПАЛОННЫЯ

Думалася: хто ў каго ў палоне...
Калі праз мястэчка папаўзлі
Доўгаю
бясконцаю
калонай,
Вусенем
зялёным
па зямлі...
Думаў я: кідаць каменнем буду
У забойцаў
і рабаўнікоў...
А жанчыны
падаюць ім
бульбу
Ды маўчанне страшнае з бакоў...

### КРЫК

А я люблю цябе,
юнак!
Уласны голас ты не душыш
Рукамі ўласнымі,
а мусіш
Сказаць,
што так,
а што — не так.

Ты — крык спрадвечных маўчуноў,
Адважных колісь... баязліўцаў...
Ты — іх працяг...
І падаць ніцма
Табе не хочацца ізноў.

## ЦІХІ МАНАЛОГ...

Я ветэранам стаў у дваццаць год...
Ды побач са старымі ветэранамі
Сваіх не надзяваю ўзнагарод,
Сваімі не хвалюся ранамі.

Зусім не там я славу здабываў.
Зямлю не тую паліваў крывёю.
Сябе самога
як абрабаваў
На той вайне з бядою тою...

## АДАПТАЦЫЯ

Выбралі шлях мы...
Ды песня дарожная
Словы ўсё тыя ж
мармыча пад нос —
Пераліванне
з пустога ў парожняе
І без аглядкі
на час і на лёс.
Мы прыцярпеліся і да ліхога.
Мы і з дурнотай заводзім хаўрус.
Не рэагуем
на водгук былога
І — на змяіны сягонняшні ўкус.

■

Душа збіваецца на строфы.
Радок хінецца да радка.
Маладзіковы
тонкі
профіль
З-пад хмары вымыла рака.
І стала ў свеце яснавока.
І ля жаночага пляча
Адкрыўся
сэнс жыцця
глыбокі
З жаданнем проста памаўчаць.



*Ларыса Геніюш*

# СПОВЕДЗЬ

Намарыўшыся археалагічнымі вандроўкамі па Панямонні, я люблю прыязджаць у Зэльву, заходзіць у гасцінны дом на вуліцы Савецкай, дзе жыла Ларыса Антонаўна Геніюш.

Кветнік ледзь не на ўсё дварышча. Дашчаныя прыступкі ганка. Стук у дзверы і знаёмае звонкае: «Заходзьце!» А потым за смачным пачастункам роспыты пра «беларускія справы ў Менску», пра Уладзіміра Караткевіча і пра ўсіх агульных знаёмых. І ўспаміны пра Жлобаўцы, Прагу, Інту... Пры адной з такіх сустрэч я папрасіў Ларысу Антонаўну, каб запісала ўсё, што памятала, што перажыла. Яна ж, насцярожана азірнуўшыся па баках, намякнула, што тоесёе робіцца. Як аказалася, і без маіх напамінкаў, калі яшчэ жывы быў муж Іван Пятровіч, успаміны ўжо ў асноўным напісаліся.

Летам 1982 года я зноў быў у Зэльве. І тут раптам пры размове Ларыса Антонаўна прыклала палец да вуснаў і паказала на столь — адтуль маглі падслухоўваць. Затым моўчкі вынесла з суседняга пакоя папку і сцішаным голасам сказала: «Рабіце з гэтым, што хочаце. Я вам давяраю, Міхаська». Я развязаў шнуркі, разгарнуў папку, і захлынулася сэрца: «Благаслаўленны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўленны маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялізнай планеце, які называўся Жлобаўцы...»

І чаму менавіта гэтым летам яна перадала мне рукапіс з успамінамі? Можа, прадчувала блізкую смерць? Ёй пачала ўжо з'яўляцца чорная жанчына — вястунне бяды ў бацькоўскім родзе Міклашэвічаў...

І ўсе гэтыя гады я, хоць і зрабіў фотакопіі і трымаў іх у надзейным месцы, баяўся за лёс рукапісаў. Бо быў гэта першы і, можа, адзіны экзэмпляр, ён як жывое слова нябожчыцы, і я абавязаны быў хоць калінебудзь данесці яго беларусам...

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдат гістарычных навук**

## *«Лёс мой чалавечы...»*

«Крывёю сэрца» пісаў калісьці многія свае вершы бессмяротны Янка Купала. Гэты твор таксама напісаны крывёю сэрца. Ён не мае назвы, як не мае назвы і тое, што перажыла выдатная беларуская паэтэса — аўтар гэтага незвычайнага ў нашай літаратуры твора Ларыса Геніюш. Па форме ды і па шчырасці гэта хутчэй за ўсё споведзь. Але споведдзю Ларыса Геніюш свой твор не назвала. Не назвала яна яго і ўспамінамі, хоць быццам мела права, магла так назваць. Твор гэты гранічна праўдзівы, ён пра тое, пра што доўгія гады не толькі не пісалі, але нават не гаварылі — баяліся гэта рабіць. Ды для Ларысы Геніюш не было ніколі забароненых тэм, як, дарэчы, і для ўсіх сапраўдных талентаў. Яна не думала пра друкаванне сваіх твораў — сказаць бы, што на сэрцы, на душы. І гэты твор, твор без назвы, быў як бы апошнім перадсмяротным яе крыкам. У ім — усё, што яна ўбачыла, перажыла, перадумала, яе горыч і боль, хваляванні і пакуты. Тут уся яна, якой нарадзілася, была,— вялікая гаротніца

за свой край, за народ, якія любіла больш за ўсё на свеце і за якія гатова была пайсці на любыя ахвяры.

Пакуль аж смерць мне не закрые вочы,
Зямля не спыніць мой апошні дых,
Буду ісці, буду змагацца моўчкі
За Край мой родны і цярпець за ўсіх,—

напісала яна ў адным са сваіх вершаў. І гэта была не дэкларацыя, не словы,— гэта была сама Ларыса Геніюш, уся яе сутнасць.

Тут, у творы, шмат лірычных адступленняў, згаданы розныя падзеі — ад дробных, бытавых, на якія сёй-той, можа б, не звярнуў увагі, да вялікіх, сусветна значных. У ім дзейнічае шмат людзей. Пераважна тых, з кім паэтэса сустракалася, каго любіла і каго ненавідзела. Усе яны выступаюць пад сваімі сапраўднымі імёнамі і прозвішчамі. Ёй можна верыць, можна не верыць, можна згаджацца, можна не згаджацца — гэта права чытача. Але яна, Ларыса Геніюш, гэтых людзей так бачыла, так пра іх думала, такое ў яе пра іх склалася ўяўленне — так яна ўсё і падае. Чаго-чаго, а смеласці, шчырасці ў Ларысы Геніюш не адымеш. Мяркуе пра людзей ды і падзеі яна таксама па-свойму, са свайго пункту гледжання, у аснове якога ляжыць ледзь не галоўны прынцып яе жыцця — што зрабіў той ці іншы чалавек дзеля іншых людзей, свайго народа, Бацькаўшчыны. Прыкладна з такіх пазіцый глядзіць яна і на падзеі, што адбываліся навокал і ўцягвалі ў свой вір і яе. Гэта, вядома, зусім не значыць, што Ларыса Геніюш замыкалася ў вузканацыянальных інтарэсах. Не, яе цікавілі іншыя народы, культуры і мовы, многае яна ведала, многім захаплялася, нават любіла. Але ў аснове ўсяго ляжала ўсё ж сваё, роднае — зямля, народ, культура, мова. Не дзіўна, што і пачынаецца гэты твор з удзячнасці таму куточку зямлі, які даў ёй жыццё, адкуль пайшла яна ў свет: «Благаслаўленны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўленны маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялізнай планеце, які называўся Жлобаўцы».

Лёс быў не зусім літасцівы да аўтара гэтага і многіх іншых выдатных твораў. Ужо на чацвёртым годзе жыцця, калі пекла першай сусветнай вайны наблізілася да Жлобаўцаў, яна змушана была пакінуць родную зямлю, якая была для яе і яе бацькоў «усім: калыскай, хлебам, песняй, любоўю, магілай». Гэтая першая ростань, праўда, была нядоўга — як толькі адступілі немцы, усталяваўся мір, бацькі разам са сваімі дзецьмі вярнуліся дадому, на сваё селішча. Ларыса — тады яшчэ не Геніюш, а Міклашэвіч, «Міклашэвічанка», як яна сябе сама называла,— пайшла ў школу, скончыла Ваўкавыскую гуманістычную гімназію. У гімназіі яна пачала пісаць вершы, а потым нечакана закахалася ў свайго ж беларускага хлопца студэнта-медыка Івана Геніюша, які вучыўся ў Празе і прыехаў да бацькоў на канікулы. Студэнт-медык Іван Геніюш таксама, як згадвала паэтэса, убачыўшы яе, «болей ужо выпусціць з хаты не мог...». Маладыя пабраліся, згулялі вяселле. Іван паехаў зноў у Прагу, а Ларыса, астаўшыся дома, нарадзіла сына Юрку. Пажыўшы трохі ў бацькоў і паставіўшы сына на ногі, Ларыса — ужо Геніюш — пераязджае на сталае жыццё ў Прагу. «Муж быў на кватэры, з нейкім студэнтам наймаў пакойчык,— напіша яна потым.— Мы прыехалі ў апошнія дні 37 года, і мужаў калега паехаў да сваіх бацькоў. Пару тыдняў мы пажылі разам, а пасьля завёз мяне і свайго цікавага залішне хлопчыка, які ўжо пасьпеў яму паламаць стрэлкі на гадзінніку (бо чаму яны круціліся?) у Моджаны. Гэта быў прыгарад Прагі, і там жыў дзядзька Васіль Захарка, якому нядаўна памерла дарагая жонка, і пані Марыя Крэчэўская. Вось там ён нас і пакінуў. Сам ён жыў і працаваў у Празе, да нас часам прыязджаў, на нядзелю — абавязкова».

Ларыса Геніюш калі не ведала, дык, пэўна ж, чула ад мужа, хто такі Васіль Захарка і «пані Марыя Крэчэўская». «Пані Крэчэўская была ўдавой па памёршым Старшыні Беларускай Народнай Рэспублікі Пятру Антонавічу Крэчэўскім». Так, так, Пятро Антонавіч Крэчэўскі — гэта той самы «дзеяч», які не падпарадкаваўся рашэнню берлінскай канферэнцыі 1925 года аб самароспуску ўрада БНР. Больш таго — ён назваў гэтую канферэнцыю «авантурызмам і падлогам», «здрадай незалежнасці Беларусі» і не вярнуўся ў БССР, як гэта зрабілі іншыя члены ўрада БНР — А. Цвікевіч, В. Ластоўскі, А. Смоліч, С. Некрашэвіч (усе, дарэчы, знішчаныя ў часы сталіншчыны), а астаўся ў Празе, дзе ўзначаліў беларускую палітычную эміграцыю, што была на той час за мяжою. Пасля яго смерці (1928 г.) месца «прэзідэнта» БНР заняў Васіль Захарка.

«Мяне сустрэлі тут як сваю, сардэчна і цёпла. Пані Крэчэўская была [...] старэйшая, інтэлігентная і вельмі тактоўная дама. Жылі яны з дзядзькам Васілём у адным доме, але паасобку. У яе быў маленькі пакойчык, ледзь на адну асобу, а дзядзька меў два пакоі і кухню. Вось адзін пакой ён і адпусціў нам. Дзядзька быў намесьнікам





Жлобаўцы. Прысады.

П. Крэчэўскага, а некалі ва ўрадзе БНР міністрам фінансаў. Гэта быў вельмі паважаны чалавек з думкамі толькі пра Беларусь. [...] Палітычнай дзейнасьці ён ніякай не праводзіў, часам толькі пісаў пратэсты супраць бяспраўя над нашым народам у Лігу Нацыяў, падтрымліваў эміграцыю і меў цесную лучнасьць з эміграцыяй другіх народаў — украінскай, рускай. Быў ён беларускім эсэрам. У Бога не верыў, але пасля прасіў пахаваць яго па-хрысціянску. У Прагу запрасілі іх чэхаславакі ўжо з Літвы, куды

спачатку пераехаў урад БНР. Мелі яны невялікую дапамогу ад урада, а за акупацыі — ад Чэскага Чырвонага Крыжа».

Вядома, трапіўшы ў такое асяроддзе, і сама Ларыса Геніюш падпадае пад яго ўплыў. Падзеі тых гадоў спрыялі гэтаму. Рэпрэсіі і жорсткі нацыянальны ўціск у Савецкай і Заходняй Беларусі, а з захаду «маршыравала адмераным, каваным крокам» і на ўсю Еўропу ўжо крычала: «Гэйль Гітлер» Германія. «Неяк Прага не спала цэлую ноч, гэта тады, калі немцы акупавалі Аўстрыю. Чэхі адчувалі, што падобнае можа аднойчы быць і з імі». І чэхі не памыліліся — «пасля 15 сакавіка 1939 г., у ветраны заснежаны дзень, увайшлі ў Прагу немцы»... Былі перагаворы Савецкага Саюза з фашысцкай Германіяй, заключэнне ганебнага, асуджанага сёння ўсімі, у тым ліку і Савецкім Саюзам, пакта Рыбентропа — Молатава... «Пасля былі апошнія лісты ад нашых бацькоў і пачыналася вайна з Польшчай». Нават вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, уз'яднанне ўсіх беларускіх земляў у адзіную Савецкую дзяржаву не прынеслі Ларысе Геніюш ні радасці, ні супакаення. «Мы яшчэ пасьпелі зрабіць Юрачкаў партрэт і паслаць яго бацькам, як немцы напалі на Рэчпаспалітую. Шкада было нашых людзей, шкада было бацькоў нашых, нашай зямлі. Вайна не жарты, а немцы не анёлы! Што ж, выйшла яшчэ горай, як мы баяліся. З'яднанне Беларусі і яе «асвабаджэнне» поўнасьцю закрыла мне гора маёй сям'і. Хутка напісалі нам, што тата мой памяняў сваю кватэру на горшую ў Гродне, і я ўжо ведала, што гэта значыць. Неўзабаве гэта пацьвердзілася, і мы ад зальвянцаў атрымалі справу аб тым, як ля сьцяны нейкага хлява ў Зэльве забілі 21 чалавека, у тым ліку старэнькага бацюшку Якабсона, зальвянскага ксяндза, і інш. Божа мой, і каму і нашто гэта трэба? Калі хто і чакаў чаго, дык ня гэтага...

Што там далей у нас рабілася, я ня ведала, але лёс таты мяне ўстрывожыў, і я пыталася: «За што?» Я ня ведала, як дапамагчы ім. Напісала ліста ў Палаўкі, да чалавека, які быў многім нам забавязаны, да Люціка Уладкі. Гэта быў набожны чалавек, наш сусед... І вось гэты чалавек прадаў нас, першы падпісаўся на вываз мамы з дзецьмі, калі тату ўжо дабівалі ў Гродне ў турме разам з яго братам Валодзем і пляменнікам Віталіем... Сумнае было злучэнне зямлі нашай, не благаслаўлёнае добрай справай...»

І хоць Ларыса Геніюш з сынам пераехала ў Прагу, на кватэру, што наняў муж, супакаенне так і не прыйшло да яе. Наадварот — ахапіла трывога: і за бацьку, які быў у турме, і за маці, якую вывезлі разам з дзецьмі ў Казахстан... «Дзядзька Васіль» і «пані Марыя Крэчэўская» не забывалі на былую сваю кватарантку Ларысу — заязджалі, сустракаліся. З'явіліся і новыя знаёмыя — Ермачэнка, Русак, Бакач, Калоша... Словам, Ларыса Геніюш непрыкметна ўцягваецца і сама ў палітычную дзейнасць. «Прэзідэнт» БНР В. Захарка прапаноўвае ёй стаць яго сакратаром, і яна не адмаўляецца ад гэтага... У сваім аўтабіяграфічным творы Ларыса Геніюш пра гэта чамусьці ўмоўчвае — не паведамляе. Яе ўвага скіроўваецца на самую змрочную асобу ўсёй беларускай эміграцыі ў Празе Ермачэнку, якога яна «неўзлюбіла» з першага дня іхняга знаёмства і які «ніколі не здабыў» яе «сімпатыі» і «даверу». «Яго ўсе баяліся»,— піша яна. Чаму? Не толькі таму, што ў яго было цёмнае мінулае, што ён, будучы багатым, «ня меў ніякае літасьці над беднымі сваімі суайчыннікамі», але і таму, што ён быў няшчыры чалавек, палітыкан. «Як можна гаварыць ад імя народу, не маючы адкрытай душы для ўсіх нашых бедаў і інтарэсаў? Я, вясковая дзяўчына, ніяк не магла гэтага сцяміць... Інтарэсы майго народу — мая сьвятасць, я крывёй магла заплаціць за яго лепшае заўтра, але я хачу, каб усе тут мелі чыстыя сэрцы і рукі!» Так, Ларыса Геніюш не памылялася, у Ермачэнкі сапраўды былі нячыстыя сэрца і рукі. І далейшае жыццё гэта пацвердзіла. Ён уцягнуў усю беларускую пражскую эміграцыю ў такое балота, з якога ніхто не выйшаў чысты. Нават сама Ларыса Геніюш і яе муж Іван...

Тым часам падзеі не стаялі на месцы — гітлераўская Германія паспешліва, па-здрадніцку подла, каварна рыхтавалася да нападу на СССР. Гэтаму было падпарадкавана ўсё. Бралася на ўзбраенне што толькі можна было ўзяць. Не былі забыты і эмігранты, тым больш, што многія з іх шукалі шляхоў зближэння з гітлераўцамі. Увосень 1939 г. у Данцыгу адбылася канферэнцыя беларускіх эмігранцкіх цэнтраў шэрагу капіталістычных краін. Прымалі ўдзел у ёй і прадстаўнікі пражскай эміграцыі — той жа Васіль Захарка, напрыклад. Гэтая канферэнцыя праходзіла пад кіраўніцтвам прадстаўніка Міністэрства замежных спраў Германіі Мэндэ. На канферэнцыі было створана так званае «Беларускае бюро даверу» пры Міністэрстве ўнутраных спраў Германіі, а пры ім — «Беларускі камітэт самапомачы». Яго філіял утварыўся і ў Празе. Кіравацъ ім выбралі Ермачэнку, сакратаром — Бакача, а яе, Ларысу Геніюш,— скарбнікам... «Ніякай палітыкі ў Камітэце мы не праводзілі, ды і не маглі праводзіць. Толькі дурань можа цьвердзіць, што немцы маглі дазволіць некаму нейкую палітыку. Усё зводзілася да цесных акрэсьленых рамак самапомачы. Невялікую суму членскіх узносаў я проста аддавала пад распіску Бакачу, бо сапраўды ён не меў з чаго жыць»,— піша Ларыса Геніюш. Так гэта ці не? Канечне, Ларыса Геніюш магла ўсяго і не ведаць, бо многае ж рабілася за яе спіною, у глыбокай таямніцы, сакрэтнасці. Ды і не абавязаны былі ёй, скарбніку, дакладваць, хто і што ў тыя дні і ночы рабіў. Факты, аднак, гавораць аб адваротным — Пражскі камітэт самапомачы дзейнічаў надзвычай актыўна. Яшчэ да яго ўтварэння той самы «вельмі паважаны чалавек з думкамі толькі пра Беларусь» «дзядзька Васіль» — Васіль Захарка як старшыня ўрада БНР звярнуўся з «мемарандумам» да Гітлера, у якім выказаў яму і яго палітыцы поўную падтрымку, і прасіў, каб «яго вялікасць Гітлер» не забываў, што ёсць беларусы, якія згодны шчыра яму служыць і аказваць усялякія паслугі. Рупнасць В. Захаркі была заўважана ў Берліне, і яго папрасілі напісаць спецыяльны даклад, выкласці тыя звесткі, якія цікавілі гітлераўцаў — палітычную, эканамічную і сацыяльную сітуацыю ў Беларусі, стан яе дарог, настроі людзей і г. д. З гэтым дакладам Васіль Захарка разам з Ермачэнкам ездзілі ў Берлін, дзе былі прыняты ў міністэрстве замежных спраў. Той жа Бакач, якому Ларыса Геніюш «аддавала пад распіску» «невялікую суму членскіх узносаў», «бо сапраўды ён не меў з чаго жыць», тэрмінова рыхтаваў па заданню рэйха «Падручнік нямецкага языка для беларусаў» (ён выйшаў у 1941 г. у Берліне ў выдавецтве Бернард і Грэфэ, Берлін). Не сядзелі склаўшы рукі і астатнія члены Пражскага камітэта самапомачы — Русак, Вітушка, Калоша, Дылеўскі, Шах, Сак, Юшко, Івашка...

22 чэрвеня 1941 года, у дзень нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз, сабраўся прэзідыум Беларускага камітэта самапомачы ў Празе, на якім быў заслуханы даклад яго старшыні доктара Ермачэнкі аб сучаснай сітуацыі. Па дакладу была прынята пастанова: звярнуцца да Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі В. Захаркі, каб «ён у гэты гістарычны момант узяў арганізацыю абароны інтарэсаў беларускай эміграцыі, а таксама звярнуўся з адозвай да беларускага народу, што беларуская эміграцыя глядзіць на надыходзячыя хвіліны з даверам», што дзякуючы такому павароту падзей «беларускі народ стане незалежным ад жыдоўска-савецкай улады і зачне сваё собскае жыццё ў цеснай дружбе і спалупрацы з вялікім нямецкім народам, які нясе з сабой яму волю».

27 чэрвеня адбыўся яшчэ адзін сход беларускай пражскай эміграцыі, гэты раз агульны, які абмеркаваў такія пытанні: 1) Даклад доктара Ермачэнкі аб сучаснай сітуацыі і аб становішчы, у якім цяпер знаходзяцца беларусы на эміграцыі. 2) Справа ахвяры для Нямецкага Чырвонага Крыжа. Па першаму пытанню была прынята пастанова, у якой гаварылася: «У знак падзякі за вызваленьне нашае Бацькаўшчыны нямецкай арміяй паслаць адпаведныя тэлеграмы Правадыру і Канцлеру Нямецкае імперыі Адольфу Гітлеру і Пратэктару, Свабоднаму пану фон Нэйрату». Змест тэлеграмаў, якія былі прапанаваны, быў ухвалены. Па другому пытанню таксама была прынята пастанова, у якой гаварылася, «што ваюючай нямецкай арміі і за нашыя беларускія справы трэба прыйсьці па меры магчымасцяў кожнага з помаччу, якая мае выразіцца ў грашовай аднаразовай і не меншай аднадзнёвага заробку ахвяруючага суме грошаў». Адначасова было пастаноўлена звярнуцца да ўсіх беларусаў, якія жывуць у Пратэктараце Чэхія і Маравія, з адпаведнай адозвай, каб «усе прынеслі долю свае ахвяры на справу грамадскую».

Захавалася рэзалюцыя гэтага сходу:

«РЭЗАЛЮЦЫЯ
Агульнага сходу беларусаў, пражываючых у Протэктараце Чэхія і Моравія

Бачучы, што Вялікі Павадыр Нямецкага Народу Адольф Гітлер павёў сваю непераможную нямецкую армію на Усход Эўропы дзеля барацьбы і поўнага знішчэньня бальшавізму, бальшавікоў-камуністых і жыдоў, якія ўжо больш як 20 гадоў уціскаюць і нішчаць наш беларускі народ, мы, Беларусы, пражываючыя на тэрыторыі Протэктарату Чэхія і Моравія, сабраўшыся на сваім агульным сходзе ў Празе 27.VI.41., пастанавілі выразіць Канцлеру Нямецкае Імперыі і Яго непераможнай Нямецкай Арміі найлепшыя пажаданьні ў дзеле знішчэньня нямецкага і нашага ворага — камуністычна-жыдоўскі рэжым на Усходзе Эўропы, а гэтым самым поўнага асвабаджэння Беларускага і іншых народаў ад камуністычнае і жыдоўска-бальшавіцкае заразы!

 

Мы, Беларусы, усьведамляем сабе добра, што Нашая Бацькаўшчына Беларусь вызваляецца Нямецкай Вялікай Арміяй з-пад камуністычна-жыдоўскага ярма. Таму, каб памагчы ёй у гэтай вялікай і адказнай перад усімі народамі сьвету працы, беларуская калёнія з Протэктарату Чэхія і Моравія пастанавіла прынесьці на аўтар нашае супольнае справы тое, што яна ў сваіх скромных варунках можа зрабіць, пайменна, прынясьці ў Нямецкі Чырвоны Крыж, які апякуецца нямецкім жаўнерам, грашовую ахвяру ў памеры не менш аднаднёвага заробку кожнага Беларуса, які будзе гэтую ахвяру ўносіць.

Гэтую ахвяру павінен прынесьці на аўтар нашае дарагое Бацькаўшчыны кожны Беларус, якому дарагі лёс Нашага Народу. Калі мы не маем магчымасьці прынесьці найбольшае ахвяры для Нашае Бацькаўшчыны — ня можам за Яе праліваць свае крыві і аддаваць свайго жыцьця, дык прынамся спосабам маленькае матэрыяльнае дапамогі мусім прыйсьці з дапамогаю таму, хто кладзе сваё жыцьцё і пралівае сваю кроў, г. ё. Нямецкаму Жаўнеру, за нашую народную справу, за нашу Бацькаўшчыну Беларусь.

Хай жыве Вялікі Павадыр Нямецкага Народу Адольф Гітлер.

Хай жыве Неперзможная Армія.

Хай жыве Беларускі Народ.

Прага, 27.VI.41.».

А вось поўны тэкст тэлеграмы «Павадыру Нямецкага Народу, Канцлеру Адольфу Гітлеру» з Прагі 27 чэрвеня 1941 года:

«Ваша Эксцэленцыя!

Беларуская калёнія ў Протэктараце Чэхія і Моравія, бачачы ў Вашай асобе першага запраўднага і фактычнага асвабадзіцеля Эўропы ад страшных праступнікаў сьвету — маскоўскіх бальшавікоў, шле Вам і Вамі кіраванай Вашай непераможнай арміі, якая ўжо ўступіла на тэрыторыю Беларусі і дзеля вызваленьня нашага народу беларускага ад чырвоных тэрорыстаў, свае найлепшыя пажаданьні ў хуткай перамозе бальшавіцка-жыдоўскага рэжыму і памыснага заканчэньня вайны на ўсіх франтох Вашае пачэснае барацьбы!

Мы спадзяемся, што беларускі народ у новай, тваранай Вамі Эўропе таксама зойме сваё пачэснае мейсца ў сям'і вольных народаў.

Прага, дня 27.VI.1941.».

Захавалася і тэлеграма, пасланая «шчырымі» беларусамі на адрас імперскага рэйхспратэктарата ў Багеміі і Маравіі.

«Барону фон Нэйрат.
Прага, замак.
Ваша Эксцэленцыя!

У момант, калі нямецкая армія ўступае таксама на беларускую тэрыторыю, вызваляючы яе ад бальшавіцка-жыдоўскай тыраніі, беларуская калёнія на сваім сходзе ў Протэктараце 27 чэрвеня г. г. вырашыла выказаць Вам, Ваша Эксцэленцыя, самыя шчырыя пажаданьні ўсіх беларусаў за непераможную Германію і за хуткую перамогу над бальшавікамі на ўсіх франтох дзеля вызваленьня народаў ад капіталістычна-плутакратычнага і жыдоўска-камуністычнага тэрора.

Мы, беларусы Протэктарата, дазволім сабе, Ваша Эксцэленцыя, паставіць усе нашыя сілы ў распараджэньне нямецкага народа.

Прага, 28 чэрвеня 1941 года».

Ларыса Геніюш не прыводзіць тэкстаў пастаноў, рэзалюцый і тэлеграм, прынятых на агульным сходзе беларусаў, «пражываючых у Протэктараце Чэхія і Моравія», але даволі падрабязна апісвае, як збіраўся і праходзіў гэты сход, як так сталася, што на ім за старшыню быў «выбраны» яе муж Іван.

«У Ермачэнкі быў свой ад'ютант, нейкі Аўчыннікаў, казалі, што некалі Ермачэнка быў за цара ў яго ад'ютантам, а цяпер змяніліся ролі. За ўлады БНР Ермачэнка быў консулам у Канстантынопалі і выдатна разбагацеў там, прадаючы беларускія візы эмігрантам, якія ратаваліся ўцёкамі за мяжу. Вось гэты ад'ютант, які ні слова не ўмеў па-беларуску, а выступаў як прадстаўнік нашай нацыі, назаўтра пасьля нямецкага нападу на СССР пачаў аб'язджаць нас усіх і тэрмінова склікаць Камітэт! У Празе гудзела, як у вуллі, быў страх і перапалох усюды, гэстапа ліквідавала ўсё, чаго раней яшчэ не пасьпела. Аўчыннікаў наведаўся да нас усіх яшчэ раз. Мы ўсе паехалі, акрамя майго мужа, які ўсё ж мусіў зарабляць на хлеб. [...] Сабраліся ўсе. [...] Усе важна паселі, маўчалі. Адчувалася нейкае напружаньне, неспакой, кожны думаў аб лёсе сваіх, ды і аб сваім. Ермачэнкі не было. Нарэшце ён выйшаў, з усьмехам, але скрыўленым нейкім, няпэўным. Загадаў выбраць старшыню сходу. Яму зацемілі, што ён жа сам заўсёды нязьменны старшыня сходу, але ён адказаў, што на гэты раз старшыня арганізацыі ня можа быць старшынёй сходу. Выставілі кандыдатуры Захаркі, Забэйды, маю. Мы ўголас адмовіліся, хоць я панядцьця ня мела, што тут прадбачыцца. А было вось што: Ермачэнка зачытаў тэлеграму Гітлеру ад нашага Камітэту. Мы пачалі пратэставаць, што Камітэт Самапомачы — арганізацыя апалітычная, не мае права даваць такіх тэлеграмаў. Ага, перад гэтым прыйшоў муж, які на дадатковы тэлефон Ермачэнкі сьпяшаўся сюды з працы. Яму ня далі яшчэ ні сесьці, ні апамятацца, як ужо «выбралі» старшынёю сходу. Ермачэнка пачаў чытаць тэлеграму. Я нічога яшчэ ў гэтым не разумела, а муж зьбялеў. Ён бачыў хітры і подлы ход Ермачэнкаў... Тэлеграму акрэсьліў Ермачэнка «ад беларусоў у Празе» ці нейк гэтак. Напісалі пратакол сходу, але ніводзін з нас не падпісаў яго! Не падпісалі гэтага сьведама. Ідучы дамоў, кажу Бакачу: «Ну ж і сьвінства з намі зрабілі, Пётра, давайце напішам свой пратакол аб гэтай авантуры, падпішам і перахаваем да лепшых часоў». Бакач спалохаўся, ён проста «скіс» і паясьніў мне, што вельмі страшны час і не ўсім, мажліва, можна верыць...


**Ад таго дома, дзе нарадзілася Ларыса Геніюш, застаўся толькі ганак.**


**Дзед Ларысы Антонаўны.**

Першы і апошні раз быў муж старшынёй на беларускіх сходах, а ў Камітэце тым больш, тэлеграму гэтую падалі без яго, з подпісам, як казаў Ермачэнка, «старшыні сходу»*... Самае тут цікавае тое, што хутка з кватэры Ермачэнкі згінуў архіў «Беларускага Камітэту Самапомачы ў Празе». Ермачэнка, як заўсёды, усьміхаўся. І вось гэты архіў апынуўся ў Менску і паводле яго нас судзілі. Толькі там была зроблена яшчэ адна подласьць — на непадпісаным пратаколе ўсе нашыя подпісы былі выведзеныя пад капірку! Калі мне паказаў гэта Коган, мой сьледчы, я тады зразумела подласьць ня толькі нямецкіх агентаў... Я зразумела многа, і мне стала сорамна за ўсіх гэтых людзей, якія асачылі нас, як гончыя, рабілі вось такія правакацыі і мелі нагласьць называцца ўраднікамі, рэпрэзентамі народу, які такі чысты быў, такі няшчасны і які я так горача, на ўсё жыцьцё пакахала».

* На самай справе тэлеграма была падпісана так: старшыня сходу: д-р І. Геніюш.

 

 

Ларыса Геніюш не маніць — сапраўды архіў «Беларускага камітэта самапомачы ў Празе» апынуўся ў Мінску, і паводле яго яе і яе мужа Івана судзілі. Дваццаць пяць гадоў зняволення ў папраўча-працоўных лагерах — вось тая кара, якая была шчодра адмерана ёй і яе мужу Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР ад 29 студзеня 1944 г. на падставе артыкулаў 66 і 76 Крымінальнага кодэкса БССР.

Крывёй напоўніліся поймы рэк,
Бурліць адчаем слёз людскіх разводдзе.
Гляджу на свет. Я — лагернік, я — Зэк,
Засуджаны на мукаў чвэрцьстагоддзя.

Мяне драты, сабакі сцерагуць,
Дзікіх надзораў зграя нада мною,
І лоб штодня мой на прыцэл бяруць
Навучаныя забіваць канвоі.

Мне ўсё ўзялі, разбурылі сям'ю,
Кіркой прабілі лёс мой чалавечы,
Ланцуг накінулі на шыю салаўю
І між сабою падзялілі рэчы...—

напіша яна ў тыя цяжкія для сябе дні.

Пасля смерці Сталіна, калі пачаўся перагляд судовых спраў асуджаных і рэпрэсіраваных, пераглядвалася справа і Геніюшаў — мужа і жонкі. Камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 30 мая 1956 г. абвінавачванне Геніюш Л. А. і Геніюша І. П. прызналі абгрунтаваным, але, улічваючы іх прыкладныя паводзіны і добрасумленныя адносіны да працы, тэрмін пакарання зменшыла да 8 гадоў, і па яго адбыцці іх вызвалілі з-пад варты. У жніўні 1967 г. Іван Геніюш звяртаўся з хадайніцтвам у Пракуратуру СССР аб перагля дзе справы і зняцці судзімасці з яго самога і яго жонкі Ларысы. Пракуратура БССР ад 10 студзеня 1968 г. у адказе на заяву ўказала, што Геніюш І. П. і Геніюш Л. А. асуджаны правільна, і таму іх скарга не можа быць задаволена.

Але вернемся зноў да твора, да тых падзей, якія папярэднічалі арышту Ларысы Геніюш і яе мужа. Пасля таго, як даведзеная да адчаю звесткамі з дому — бацька ў турме, маці з дзецьмі ў высылцы ў Казахстане, брат Расціслаў трапіў у нямецкі палон, ды і многія сваякі апынуліся ці на тым свеце, ці ў няшчасці — яна надумала скончыць жыццё самагубствам — «пусціўшы газ». Муж, Іван, выратаваў яе ад смерці — «выцягнуў з маленькай кухні»...

Што было рабіць, як жыць далей?.. Ларыса Геніюш вырашае заняцца сур'ёзна літаратурнай творчасцю. У Берліне тады выходзіла на беларускай мове газета «Раніца». «Аднойчы ўзяла я «Раніцу», паглядзела адрас і напісала туды сваю маленькую фантазію на тэмы вясны і Бацькаўшчыны. Нікому пра гэта не гаварыла. Калі прыйшла наступная «Раніца», нават у рубрыцы «карэспандэнцыя» я не знайшла найменьшае зацемкі на маю сардэчную вясну... Але аднойчы ў паштовай скрынцы я знайшла ліста на маё імя ад рэдактара газеты: мая фантазія, паводле слоў рэдактара, вельмі добрая рэч і была пакінутая ў Велікодны нумар. Так, знача, я цяпер буду пісаць. Усё дарагое мне забралі, панішчылі. Але ёсць тут у няволі браты мае, цёмныя, нават ня ведаюць добра, хто яны, самі сябе недацэньваюць, вось я хачу аказацца для іх, але так: сэрца да сэрца.

І вось пачалося... Я хутка выбілася на першую старонку газеты, мяне палюбілі. А я, я толькі думала пра нашых людзей. Часам на каленях вымольвала ў Бога такія словы і мыслі, якія б падтрымалі ў няволі братоў маіх, не дазволілі ім забыць пра сем'і свае і сёлы. Каб рабілі іх упэўненымі ў сваіх чалавечых вартасьцях, давала абразкі ім з нашае гісторыі. Многа вершаў маіх паляцела ў рэдактарскі кош, шмат не прапусьціла цэнзура, але я іх усе адно пісала маім братам і часам аж плакала».

Ці спачувала Ларыса Геніюш немцам, ці падтрымлівала іх? Сама яна піша пра гэта так: «Будучыня была яшчэ пісаная віламі па вадзе, і арыентавацца на немцаў нам ніяк было нельга. Я пaглядзела на іх палітыку, на варварства, і адразу ж так сабе падумала: «Каб не напісаць ім ні слова, як быццам яны навогул для нас не існуюць, а калі закрануць, дык праўдзіва, і з цэлай душы галубіць, апяваць, лялеяць сваю Беларусь, чаго нам ніколі не дазвалялі дагэтуль каланізатары нашай зямлі». І да гонару Ларысы Геніюш — гэты свой запавет яна выканала, не напісала «ні слова». Наадварот, калі пачалася вайна, фашысты ступілі на беларускую зямлю, напісала верш «Як хмарны дзень — так сэрца маё сёння...»

Як хмарны дзень — так сэрца маё сёння...
Дождж з непагодных сыплецца вачэй...
Таму, што гэта Край мой любы стогне,
кроў ў воды Нёмну жыламі цячэ.

Не счырванела зорана каліна,
не мак цвіце, а Край наш, Край ў агні! —
бы сцеле сонца ярым кармазынам,
заходзячы за грыву спелых ніў.

Уціш мяне, што гэта не пажары,
што не сяло, не лес стары гарыць!
Наш Край зляжыў даволі ўжо ахвяраў,
каб выпесціць і ўбачыць свет зары!..

«Яшчэ пісала многа — што друкавалі, а чаго і не...»



У 1942 г. у Ларысы Геніюш выходзіць у Празе кніга паэзіі «Ад родных ніў». Ларысай Геніюш пачынаюць цікавіцца ўжо не толькі як сакратаром БНР і скарбнікам Камітэта самапомачы, але і як паэтэсай. «У Прагу прыехаў Ермачэнка, выклікаў мяне і загадаў зьбірацца ў дарогу, у Менск! Яго госьці, працаўнікі гэстапа, папыталіся ў мяне, з кім я працую, што выйшла мая кніга, дзе нічога няма пра Гітлера, пра Герынга і пра новую Эўропу. Я сказала (даслоўна!), што мой талент замалы на тое, каб пісаць пра так высока пастаўленыя асобы, што я ні з кім не працую. Тады мне сказалі: «Хто не з намі, той супраць нас». Ермачэнка аднёсься да мяне вельмі груба і сказаў мне, што выбару мне няма, толькі Асьвенцім ці Менск, каб выбірала. Калі я запыталася, што я там буду рабіць, мне сказалі, што «прапаганда махэн» (рабіць прапаганду). Я кажу ім, што гэта нельга, бо я толькі хатняя гаспадыня і ніякай прапаганды рабіць ня ўмею. «А нам патрэбна толькі ваша імя»,— адказаў мне на гэта немец. Што было мне рабіць?»

Тым не менш якраз у гэтыя дні, выступаючы ў «Беларускай газэце», што выдавалі калабаранты ў Мінску, і расказваючы пра сябе (№79 (99) ад 25 кастрычніка 1942 г.) і мэты сваёй творчасці, яна пісала:

«Я нарадзілася 27.VII.1910 г. у Жлобаўцах, Ваўпянскай воласці Горадзенскага павету. Дзявочае маё прозвішча — Міклашэвічанка. Род наш стары, беларускі, паходзіць з Крынак, зроднены там з старымі лесунамі, чамялямі, шараметамі і інш. З часоў сусветнай вайны засталося мне ў памяці суровае ўцякацтва і паварот у 1919 г. у родныя Жлобаўцы. Пачатковая польская школа і польская гуманістычная гімназія ў Ваўкавыску — мая адукацыя. Беларускай школай былі для мяне нашыя сяляне і вёска, асабліва моладзь. Ад яе я пачула першы раз, акрамя народных нашых песьняў, і «Жыў на сьвеце Лявон». Яе долю перажывала я ў сваім, можа, крыху дзікім, але вельмі гарачым сэрцы. Супроць строгіх, часта нават, актыўных пратэстаў бацькоў, якія ўважалі сябе «панамі», нейкая салодкая, незразумелая сіла цягнула маё сэрца ў сёлы. Пах торпы і лёну, які я чула, праязджаючы праз вёску, вабіў мяне заўсёды за стол да сваіх. Кажная нашая сялянка была для мяне як маці, кажная дзяўчына — сястра. Пачуцьцё маё мне шчыра адплачвалі. Не былі гэта нашыя, якія не разумелі мяне, судзілі, чарнілі.

У 1934 г. я выйшла замуж за д-ра Янку Геніюша, які першы даў мне нашы кніжкі, адкрыў мне вочы на мінуўшчыну нашую й крыўды, якія мы цярпелі на нашай роднай зямлі. Чытаў мне Купалу.

У 1938 г. я мусіла выехаць у Прагу, дзе жыў і студыяваў мой муж. У мяне ўжо быў прыгожы хлопчык. Я тут сустрэлася з нашай эміграцыяй, але ейныя інтарэсы не заспакоілі маіх жывых парываньняў, я зноў вярнулася сэрцам і думкамі ў нашае сяло.

Пачаліся вялікія падзеі. Сэрца пачало бушаваць ахвотай да творчае, сапраўднае працы для Краю. З'явіліся нашыя палонныя, хацелася сказаць ім нешта роднае, нешта добрае, нешта сваё — таму я пачала пісаць. Я пішу ўжо ад школьных гадоў. Нешта пасланае ў друк — ня было нібы сьмеласці. Сяньня ж, калі знаю больш нашу мінуўшчыну, нашыя крыўды і нашыя правы — не магу ня пісаць, ня клікаць сваіх дарагіх братоў да змагання, да найбольшых ахвяраў і чынаў для пакрыўджанага нашага народу. Не магу стрымаць ужо гэтае буры, якая сабралася ў набалелых грудзёх із крыўдаў, сьлёзаў і болі Нашае Зямлі».

«Бура» «ў набалелых грудзёх із крыўдаў, сьлёзаў і болі Нашае Зямлі» кіравала ўсім далейшым жыццём Ларысы Геніюш, як бы і куды б яно яе ні кідала — у Празе, дзе панавалі немцы, а потым, пасля вызвалення Савецкай Арміяй, усталявалася новая ўлада, у час паездак у родныя Жлобаўцы і ў разбураны вайною Мінск, у час арышту, следства, допытаў і ў час зняволення ў жудасных умовах сталінскіх лагероў... Яна, гэтая «бура», дапамагла Ларысе Геніюш прайсці ўсе кругі пекла і астацца самой сабою, ніколі і ні ў чым сабе не здрадзіць...

«Кожны хацеў бы, каб я думала так, як ён, каб гэтак жа прадала сваю душу, сваю беларускасць і тое найсьвяцейшае, што захавала ў душы са свайго дзяцінства»,— напіша яна потым, амаль у самым канцы жыцця. І сяго-таго ціха, спакойна, па-жаночы тактоўна, але цвёрда папярэджвала:

Не згінай мяне, я не сагнуся,
Не баюся ні страхаў, ні зла.
Нездарма я з зямлі беларускай
Непахіснай сасною ўзрасла.

Напрасткі йду няходжанай сцежкаю,
Мудрасць продкаў ў гарачай крыві.
Ні прад кім не схіляю паспешна
Крыху гордай сваёй галавы.

Абмінаю ўсю набрыдзь, што вокал,
Чалавечы мой блытае лёс.
Гляджу ўдаль, не маргнуўшы нат вокам.
Розум цэмру праніжа наскрозь.

Ларыса Геніюш мела права на такія словы. Гэтае права яна заслужыла ўсім сваім жыццём.




Тагачасны Ваўкавыск.

Ваўкавыск. Шведская гара.



І вышэйшая справядлівасць, што менавіта яна напісала твор, які несумненна выкліча ўсеагульную цікавасць, зойме вельмі ж пачэснае месца не толькі ў нашай літаратуры, але і стане ў адзін шэраг побач з сусветна вядомымі «Архіпелагам ГУЛАГ» А. Салжаніцына, «Крутым маршрутам» Я. Гінзбург, «Калымскімі апавяданнямі» В. Шаламава... Такі твор павінен быў быць у нашай літаратуры — Беларусь выпакутавала яго.

І ён, гэты твор, ёсць! Калі ласка, чытайце, вывучайце, абмяркоўвайце...

Барыс САЧАНКА

**АД РЭДАКЦЫІ:**

**Паколькі ў часопісе «Маладосць» ужо друкаваўся матэрыял Барыса Сачанкі «Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні», дзе дадзена прынцыповая ацэнка многім «дзеячам», пра якіх успамінае і Ларыса Геніюш у сваёй аўтабіяграфічнай прозе, мы зараз не засяроджваем на іх увагу, а сваіх чытачоў адсылаем да гэтай публікацыі («Маладосць», №№ 10—11 за 1988 год).**

**Друкуючы ўспаміны Л. Геніюш, мы захоўваем асаблівасці рукапісу і падаём яго практычна без змен.**

**Нягледзячы на некаторыя спрэчныя, суб'ектыўныя ацэнкі тагачасных падзей і асоб, твор друкуецца без скарачэнняў — як дакумент тых складаных гадоў.**



Ларыса Антонаўна — гімназістка.

# ЖЛОБАЎЦЫ

## I

Благаслаўленны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўленны маленькі кусочак роднай, бацькавай зямлі на вялізнай планеце, які называўся Жлобаўцы. Называўся, бо сяньня яго няма, тага нашага фальварачка, і нават ягоназовы. Там калгас з нейкай ультрасавецкай назовай, дом перавезены ў Ваўкавыск, разам з гумном, а там, гдзе была наша сяліба, стаіць толькі даўгі мураваны хлеў і некалькі дрэў, якіх яшчэ не пасьпелі выкарчаваць на папал сяляне. Калі бываю там, дык прашу: «Пакіньце яшчэ хоць гэтыя дрэвы... З сяла Аляксандраўка, што ля Воўпы, ад старых прыяцеляў маіх бацькоў Зелянкевічаў відно як на далоні нашу сялібу і чутно, здаецца, як вецер калыша дрэвы. Часам доўга ўглядаюся на сьцежкі свае маладосьці — ажываюць успаміны і здаецца мне: спрацаваныя матчыны рукі туляць мяне ласкава да сэрца, алеяю, ці як мы казалі — прагонам, шырака крочыць тата, я яму толькі па бараду, і, угледзеўшы мяне, ён заўсёды ўсьміхаецца пад сваімі крыху рыжымі вусамі, заўсёды падзеліцца думкамі накшталт: Полацкае княства сяньня зрабілі непапулярным са

страху, каб не сэпаравалася па праву ад імпэрыі, але ці ты думаеш, што твая Беларусь утрымаецца эканамічна, калі б была самастойнай? Тата ведае, чым жыву, і часамі хоча мяне паклявіць, як малое дзіця. Крыху спрачаемся, мае ідэі для яго, з дзядоў ужо нявольнага, як экзотыка. Тата ведае, чым за гэта плаціцца, і пагдядае на мяне з нейкай чуласьцю сумнай.

Ксеня, невялікая, але з вялікімі цёмна-сінімі вачамі, чорнавалосая і зграбная, жыве сваімі законамі і любіць часам закурыць папяроску. Мы ўсе вельмі супраць гэтага. Ніна, вельмі прыгожая бландынка з зялёнымі вачыма, вельмі любіць танец. Недзе бачыла балет і доўга, пасучы гусей, танцавала свае дзіўныя танцы на пальчыках, з яе не сьмяяліся. Расьціслаў высокі, але яшчэ не мэтар дзевядзесятпяць, да якіх дарос у сталым веку. Ён вучыцца ў сельскагаспадарчай школе ў Жыровіцах, вельмі прыгожы, чулы, ціхі, паслухмяны і працавіты, хоць яшчэ дзіця. Нейк, калі мы разам ехалі да Гудзевіч, сказаў мне свае пляны на будучыню, яны былі даволі дзіўныя. «Калі вырасту, дык вазьмем ад бацькоў часьць зямлі, якая нам належыць з табою, і будзем разам гаспадарыць, ты будзеш садзіць кветкі, даглядаць хаты, а я пакажу ўсім, як трэба дабываць ураджаі, пасьля возьмем да сябе бацькоў, і нам так будзе добра». Мілы, наймілейшы мой брат, Гэркулес з душою, як лютня. Здавалася яму, што пакінуць Жлобаўцы — гэта здрадзіць сваёй сям'і.

А зямля да нас гаварыла. Яна разумела нас, акружала духам мінуласьці ўсяго нашага народу і вялікай любоўю дрэваў, палёў. Ланы жыта хваляваліся проста пад вокнамі, і каласы шапацелі ад ветру. Нам было добра на весьнім сонейку, на дажджы і на ветры, весела крочылі мы ў кажушках сваіх зімою, і коні насілі нас у куліку па дарогах, на якія ласкава сьвяціў месяц.

Пасьля быў Аркадзі, вечна вясёлы, стройны і з твару падобны на маму. Яго мы нейк любілі меней Славачкі. Вельмі бурным, гордым, сьмелым такім юнаком быў наймалодшы з хлопцаў Аляксей. Браты былі дружныя, любілі коней і мелі свае хлапцоўскія забавы. Але яны былі яшчэ дзеці, вучыліся, і найбольшым «хлопцам» удома была я. Усе справы з падаткамі, урадамі, даўгамі, крэдытамі ўскладаў тата на мае плечы. Ён не любіў такіх спраў, і я іх не любіла, але памагала тату, як толькі магла. Наша наймалодшая Людміла, Люсенька — як мы яе называлі, была раскошным дзецям, прыгожым, ласкавым і вельмі разумным. Была яна любоўю ўсёй сям'і, і ў яе маленькім сэрцайку было столькі ласкі да ўсіх, што мы яе падзіўлялі. Яна вельмі любіла мяне, болей як маму, і мы амаль не разлучаліся.

Я была найстаршай удома з дзяцей і, здаецца, найболей каханай бацькамі, брацікамі, Люсяй і слугамі. Ксеня і Ніна мяне не любілі. Новы вялікі дом, і ўсе ўдома. Цяжка было знайсьці адпаведную працу пры Польшчы, асабліва, калі бацькі былі больш-менш забясьпечаныя, на вышэйшую адукацыю не было матэр'яльных магчымасьцяў, заставалася працаваць на зямлі і чакаць мужа. Падсьведама і я думала аб мужу нейкім, але ён мусяў быць Беларус. Такіх не было, толькі сяляне, усё роўна муж мой будзе Беларус! А сватоў было шмат, даходзіла да трагэдыяў, часам да сьмеху. Мы былі праваслаўныя, вось і сваты ад маладых сьвятароў пачыналіся. «Што ж, купі часты грабеньчык, бараду ж будзеш часаць сваяму мужу»,— сьмяяліся сёстры і я разам з імі. Часам людзі мяне ледзь толькі бачылі, а ўжо прасілі мае рукі. Гэта было дзіўна, несамавіта. Мама іх усіх не любіла, а яе прыяцелька, пані Ядвіга Зелянкевічыха, гаварыла: «Няма кавалера для панны Ларысы, толькі Пілсудскі!» Гэта быў вялікі камплімент, у якім мілая пані Ядвіга абсалютна забывалася аб позьнім веку польскага маршала і думала толькі аб яго знатнасьці. Для мяне нават ён не прыйшоў бы ва ўвагу, бо ж быў не беларус...

Час ляцеў, нам было блага і добра — залежала ўсё ад даўгоў, якіх было надта многа, бо самыя Жлобаўцы дзед мой купіў тату пераважна на віленска-тульскі банк, якога паперы вайною, на жаль, не загінулі, і Польшча з усёй строгасьцю спаганяла даўгі. Неймаверна высокія падаткі і разбураная да апошняга ў час вайны сяліба і вялікая сям'я — усё гэта не магло не ніяк зрабіць хоць крыху заможнымі. Мы ўсе працавалі, мама наша найболей. Нас моцна ашуквалі, бо тата быў горды, давяраў купцом ваўпянскім, і яны вельмі гэтым злоўжывалі, а з прыходам савецкай улады давялі нашых бацькоў да гібелі. Мы жылі цесна з сялянамі, якія густа засялялі свае ўчасткі, дзялілі сваю зямлю між дзяцьмі, жылі пераважна бедна, усё рабілі сабе самыя ад



**Ларыса Антонаўна і Іван Пятровіч бяруць шлюб.**

кашулі да цудоўных нашых дываноў. Воўна і лён і залатыя рукі жанчын-беларусак — і чалавек ужо апрануты цёпла, чыста і хораша. Было б толькі на чым сеяць той лён, той хлеб сялянскі і смачны, як пірог. Сёлы нашыя былі тады адвечнай стыхіяй беларускасьці, як жа багатай, як жа цікавай і роднай для нас. Тады яшчэ сёлы сьпявалі. Сьпявалі яны вечна, пры любой нагодзе, толькі ня постам. Увечары з усіх сёл чулася сьпеў шырокі, то сумны, тужлівы, то баявы, бадзёры, з бунтарскай нотай, прагны дзеяньня, волі. Гэта была душа народу і мая душа — дзяўчыны ўжо з асьветаю — знача тым болей сьведамаю крыўд, якія церпіць наш народ ад атупелых у сваім шавінізьме палякаў, як калісьць ад расейцаў. Народ ляжаў бязьдзейнай, амаль бяспраўнай палітычна масай па ўсёй сваёй зямлі і толькі цярпеў і стагнаў ад нястачы, прыніжэньня і няволі.

Зямля была для нас усім: калыскай, хлебам, песьняй, любоўю, магілай. Чым больш зямлі, тым болей надзейнае заўтра, ніякае надзеі больш на ратунак. Вось яшчэ служба ў паноў ці ў яўрэяў альбо ад'езд на цяжкія працы ў чужыну. Нацыянальная сьвядомасьць пранікала паволі, цяжка. Хлопцы, актывісты «Грамады», альбо не вярнуліся зусім, альбо засталіся без здароўя, пабітыя, падбітыя дэфэнзывай, не жыхары ўжо на гэтай зямлі. Мне трапіў у рукі зборнік вершаў Міхася Васілька, але ён не зацікавіў мяне асабліва. Зьмест народнай паэзіі, песьні, звычаяў быў шмат глыбейшы, цікавейшы, часам несказана чароўны. Як жа вылавіць пэрлы з гэтага акіяну? Хто здолее гэта, хто зможа? Я ўбірала ў сябе ўсё гэтае багацьце, і ў гэтай стыхіі было мне найлепей. Цяжка было гэта сьцяміць маім бацькам і суседзям. Яны з жахам думалі: гдзе падзелася яе ўся навука? А навука адчыняла вочы на раскіданыя, чароўныя, несабраныя скарбы маяго Народу. Выдатна, у вачох маіх, аддзяляліся нашыя сяляне ад тых паўінтэлігентаў, у асяродзьдзі якіх мне давялося жыць. Сапраўды разумных людзей я тады яшчэ не сустрэла. Трагічна адна я йшла нейк вобмацкам, інтуіцыяй да сваіх праўд, а якія яны — я добра ведала з ідэалаў французскай рэвалюцыі, з вясны народаў, з канстытуцыі Амэрыкі. Ірвала мне сэрца нацыянальная і сацыяльная несправядлівасьць. Родзіцца жа аднолькава малое стварэньне, з усімі правамі на жыцьцё, і чаму жа так розная доля? А палякі і людзі ў іх на службе былі як сьляпыя, як жа яны знушчаліся над народам проста ў ачавідкі! Душылі падаткамі, ганьбілі мову, нават не прызнавалі нашай народнасьці, быццам ідэі дэмакрацыі і вольнасьці людзям зусім не кранулі іх сэрцаў і розумаў, у існаваньні якіх я сумнявалася нават... Побач з беларускай галечай высокія зарплаты найніжэйшых ураднікаў і страх іх з нашага існаваньня. Сумна падышоў раз мой тата да мяне — на пошце ў Воўпе яму парадзілі, каб дачка кінула выпісваць беларускі друк, а выпісвала я толькі правыя выданьні, бо там было нешта з таго, што я так пакахала ў сваім народзе. Я нарадзілася такой, ад пялюшак ужо прасякнутай усім, што наша, з болем і прагай змаганьня за волю і нашую зямлю для нас. Аднойчы вёз мяне прыгожы хлапец да свае маці, як казаў. Шпарка ляцелі па гасьцінцы лёгкія саначкі, адной рукой ён абняў мяне, другой трымаў лейцы. У мяне былі сьлёзы на вачах, і ён папытаўся, чаму я такая сумная? Перад намі йшоў юнак, з цяжкіх абіякаў (быў такі абутак за Польшчы) відно было падраныя ганучы і голыя пяты на холадзе. Ці ж магла я йсьці замуж (быў гэта студэнт), калі такое і толькі такое было на маёй зямлі... Я была дзіўнай і часта не разумела сябе сама, ад усяго нядобрага мяне бараніла нейкая сіла. Нядобрага... А тое «нядобрае» было, можа, найлепшым у вачох бацькоў маіх, маіх сваякоў: багатае замужжа, грошы і слугі. «Не, у мяне не будзе слуг, бо кожны мусяе сам сябе абслугоўваць»,— секла я ў вочы спрыяючым людзям. Што яны ведалі пра тое, як дружна ў сялянскіх сем'ях, як ткуць дзяўчаты палотны ў куфры, як мараць. Як зьбіраюць на полі жанчыны чыста каласы ў снапы, якія яны працавітыя, а якія талковыя? Ёсьць, праўда, розныя людзі, але паганым чалавекам быць устыдна, і слаўныя толькі тыя, хто добры і спавядлівы. Яшчэ малою я пачула, як нашыя госьці: войт, пісар гмінны і бацюшка — угаварыліся пакараць аднаго селяніна. Сын гэтага чалавека за буянства (ён яшчэ жыве) трапіў у турму, бацька ўнёс за яго каўцыю 500 зл. да суда, і вось той селянін нечым не дагадзіў сьвятару. Яны змовіліся, каб тае каўцыі яму не вярнуць. Гэта было страшна, бо на той час пуд жыта каштаваў два злоты, і хоць селянін быў ня з бедных і ня з тых, якіх я любіла, але і яго было жаль. Я ўсё яму расказала, што ён мае рабіць, гэта значыць йсьці перапрашаць сьвятара і так ратавацца. Узяў той Пятрук мёду з сабою і яшчэ нешта і так улагодзіў справу, сына не засудзілі і грошы вярнулі. Гэтую тайну хаваў ён сьвята...





**Дом у Ваўкавыску.**

Здаецца, людзі любілі мяне, хоць зразумець ім мяне было цяжка: кожны пхнецца вышэй, а я тут самохаць зьніжаюся да іх і яшчэ хвалю... Што ж, яны ня ведалі, якія вартасьці тояць у сабе і, на жаль, пасьля вельмі хутка пазбыліся іх, калі надышло тое, новае... І так я не такая, як усе, але ці вінаваты хто за тое, якім ён родзіцца? А мне было добра, як у казцы! Дзіўна бывала — пашле мяне тата з вазамі канюшыны ў Ваўкавыск, іду за вазамі сабе ноччу, бо коням цяжка, але каля лесу зграбна чарапкаюся па вяроўцы на воз, бо тут, казалі, пару дзён як памёр чалавек, упаў нежывы. Вось ляжу нуртам на жэрдцы, і добра мне, што я на возе. Раптам чую, што недзе лячу. Калі мяне ачуцілі нарэшце, падняўшы воз, які перакінуўся з насыпу, бачу, стаяць фурманкі і людзі, спыніліся, едучы на кірмаш, а Сроіл воўпянскі кажа: «Ну і вы ўпалі, паненач-

ко, проста на тыя яловыя лапкі, гдзе той мёртвы ляжаў...» Нейкі хлопец з сяла каля Воўпы пасьвіў жывёлу і ляпіў з гліны рознае, убачыла гэта пані з Бялавіч і нейк аддала яго ў «Школу штук пенкных» у Кракаў, але гэта я даведалася пазьней. А цяпер той хлапец, студэнт, ладзіў на канікулах прадстаўленьне ў Воўпе з вясковай моладзьдзю, і што? Дэмана! Засталіся мы паглядзець пасьля царквы. Ён прывёз харошыя касьцюмы з Кракава — пазычыў, і сам як дэман лётаў, выкручваўся і ўзнёсла дэклямаваў па-расейску з немагчыма беларускім акцэнтам. Пасьля знамянітага спэктаклю дэман кінуўся да мяне, зусім мяне ня знаючы, і сказаў мне, што вельмі хоча са мною ажаніцца. Калі скончу школу, каб чакала яго, і ён мяне знойдзе. Прайшлі гады, і малады мастак явіўся па маю руку, мама не згадзілася на гэты шлюб, а я падумала: гэта не мая доля. Доля зарысоўвалася рашуча, вельмі трагічна, але на шчасьце маім бацьком, якія вельмі паважалі мэдыцыну. Жыў і вучыўся недзе ў Чэхаславаччыне малады беларус, якога не зусім сьляпы лёс прызначыў мне другам і мужам. Я яго ведала. Я ведала і ягоную хату, і ўсе іх будынкі, са сну, безумоўна. Ведала нават, як выглядае Прага... Ягоны бацька, убачыўшы мяне ў нашых сваякоў, так захапіўся тоненькай і паважнай дзяўчынай, што не забыўся аб гэтым расказаць сваяму сыну: «Вось я, сын, на тваём месцы толькі яе ўзяў бы...» Пасьля я ўбачыла і сына, на мяне чакалі ў іх коні ехаць да дзядзька ў Пятрэвічы. Была восень і дзень дажджлівы, халодны. У хаце ў Геніюшаў, сяброў маяго дзеда і сваякоў, было цёпла і міла. Высокі, прыгожы сэрцаед вельмі каля мяне закруціўся, яго маці міла мяне запрасіла на абед. Муж пасьля мне расказваў, што яму нешта сталася і ён пастанавіў не пускаць ужо мяне з хаты, але яму гэта не ўдалося. Я паехала да дзядзькоў у глухую вёску. Мужа маяго туды запрасіць не хацелі, баяліся яго, бо ўжо залішне ўсім падабаўся. Я аб ім ня думала, у мяне былі свае сумныя і глыбокія думкі, аб якіх я не любіла нікому казаць. Мяне сьледавацель назваў са злосьці адзіночкай у змаганьні, мусяць, гэта была адзіная праўда, якую той нехрыст сказаў. Лёс мяне не акружаў сябрамі, з якімі лягчэй было б нясьці, нейкай сілай ускладзеную, ношу адказнасьці за лёс сваяго народу...

І так я ў Пятрэвічах у сваіх паўпанкаў сваякоў. Ля цэркві ў Славатычах падыходзіць да мяне сялянская моладзь, члены камуністычных ячэйкаў, але гутараць яны пабеларуску, сьпяваюць мне «Жыў на сьвеце Лявон» і інш. Усе ў мяне ўлюбляюцца, і мне гэта дзіўна, гэта не праца, па-мойму. Адседзеўшы 8 гадоў, выйшаў з польскай вязьніцы нейкі Юлек Кароза, ён вывучыў марксізм назубок і кожны дзень прысылае мне цэлыя сшыткі, запісаныя класавай барацьбой. Усё гэта слабей за рэчаістасцьць і нейк непраўдзіва, штучна і зусім не па-нашаму, і далёка ад харства, якое вабіць мяне ў нетрах народу нашага ў яго гісторыі, якую малады Геніюш мне прыслаў разам з іншымі кніжкамі. Да таго я яшчэ моцна веру ў Бога, і толькі гэтай дарогаю магу йсьці і шукаць нейкай праўды, ратунку для майго народу. Я трымаюся вельмі здалёк ад сваіх новых знаёмых, мне падабаецца толькі тое, што хоць нейкі пратэст паяўляецца ў сёлах. Вось ускалыхнуць бы тое вялікае, што тоіцца ў народзе, хто гэта зробіць? Які ж я змагар, гэта толькі ў маёй уяве, на самай справе боль і любоў і ўздымаючая сэрца надзея. «Дзевчына-люд» гаворыць на мяне нейкі вялікі начальнік пан Нужыньскі, паляк, безумоўна, які раз убачыў мяне і адразу папрасіў у бацькоў мае рукі, а злосная сястра насадзіла бульбіну на палачку і паказвае мне здалёк, як прэзэнтуецца мой сват — худы, доўгі, з малой галавою... Гутарка тут на бацькох і спынілася, чалавек не наш... І так я вясковая дзяўчына, якой многа дала добра пастаўленая гімназія ў Ваўкавыску і яшчэ болей кніжкі, розная класіка, якая няведама якімі шляхамі знаходзіць мяне ў нашых Жлобаўцах. Чытаю, думаю, кахаю, жыву! Ну, а пакуль я ў Пятрэвічах. Адзін з маіх дзядзькоў, Сьцяпан Міклашэвіч, ідэйны камуніст! Далі яму за гэта палякі ўжо 3 гады, але ён не сунімаецца. Уцякаў у Саветы, скуль прывёз жонку, не вельмі чэсны са слугамі і з людзьмі, але ж камуніст і марыць пра арцелі і калгасы, хоць у самога нешта да 40 гэкт. зямлі. Дзядзьку гэтага бачу наскрозь — ён з такіх людзей, да якіх не адношуся добра, ён любіць жэсты, але праўды і дабрыні ў яго няма за грош... Мяне ён ня любіць, бо я гавару тое, што думаю. Жыве там побач дзяцькоў жанчына, якой муж уцёк у СССР. Яна вышывае кам. сьцягі, агітуе. Я бываю ў яе, шкадую яе, але нічога няма ў ёй беларускага, таго дарагога і вечнага, а без гэтага ўсё для мяне чужое: калі ня будзе такіх сардэчных беларускіх людзей на вярхах, усяроўна на гэтай зямлі нашай ня будзе шчасьця, бо не будзе паўнаты творчай, беларускай стыхіі. Я так думаю.

Прыходзіць вясна, Вялікдзень якраз. Дэфэнзыва зрабіла жудасны налёт на сёлы, што ля Пятрэвіч, узялі і маяго дзядзьку Сьцяпана, а я была тады ў старшага Мікалая. Вядуць небарака з закаванымі рукамі, просіць мяне, ледзь не плача, каб я яго ратавала. Ну, а як тут яго ратаваць? Хуценька запрэгла я каня і пад'ехала туды, гдзе яго павялі. Многа назьбіралі з усіх вёсак. На маю фурманку пасадзілі дзядзьку і некалькі паліцыянтаў, а да аглобляў з абодвух бакоў прывязалі наручнікамі хлопцаў. Еду, вязу іх і баюся, каб конь хоць не падбег, дзеля тых прыкаваных. Адзін, памятаю, быў з Цыганоўкі. Памаленьку распытваю: куды іх, як і што. Мая асоба робіць уражаньне, памалу адчыняюцца вусны, падаюць рэплікі, што так мусіць быць там, гдзе палітыка. Яшчэ на месцы адзін падскочыў да мяне з пытаньнем: а за што арыштавалі дзядзька? Кажу: «Вы гэта, чалавеча, ведаеце напэўна лепш ад мяне, бо я то на вашым месцы яго не арыштоўвала б». Пад'язджаем да т. зв. «Чортавай гары», і там лясок з левага боку. Конь ледзь цягне нямілую паклажу. Бачу, мае паліцыянты па адным паздзыгалі з воза, каню лягчэй. Знача, гутарыць з імі можна. А тут штурхае мяне мой дзядзька: «Ларачка, як яны пасядаюць, то схапі іх за стрэльбы, а я драпану ў лес, бо не стрываю пабояў, баюся што зраблю ўсыпку...» Зьгінь ты, прападзі з героем! Знача ўсыпку, яшчэ не дастаўшы гумаў, ну і ну... Кажу: сядзі, дзядзька, спакойна, я цябе выратую, а то ўпаляць табе ў адно месца кулю і згінеш як міленькі тут. «Чортава гара» кончылася, і мы цэлай нецікавай кампаніяй рушылі далей. Ля Зэльвы мяне папрасілі зьлезьці і ўзялі за фурмана нейкага дзядзьку, недзе баяліся, што замнога мне сказалі, а такі паведамілі даволі. Я ведала ўжо, да каго ў Ваўкавыску і цераз каго мне дзейнічаць. Пераначавала я ў нейкіх людзей, не пайшла да Геніюшаў, бо тут трэба было моцна думаць, як заўтра дастацца ў Ваўкавыск. Аўтобусаў ніякіх! Назаўтра я проста загадала нейкаму дзядзьку з таго боку завярнуць каня і везьці мяне ў Ваўкавыск. На маё зьдзіўленьне, ён мяне паслухаў. Конь быў гаспадарскі, дагледжаны, і з палудня мы ўжо былі на месцы. Памятаю: пан Каланчынскі — галоўны сьледавацель і нагодай муж мае каляжанкі Ліны Жыжун. Прабралася я да яго і проста прашу: «Ня беця вы хоць тых учарайшых нашых вязьняў, асабліва майго дзядзьку». «Або мы калі каго б'ём?» — вырачыўся ён на мяне. Сто доказаў было ў мяне на гэта, але я прамаўчала... Адным словам, маяго дзядзьку ня білі. За пару дзён выпусьцілі яго, прыехала цётка і вось павезла п'яненькага дамоў. Але я бачыла, як вялі па вуліцы хлапцоў пад канвоем, яны йшлі на пальцах, ледзь ступаючы, знача, білі гумамі ў пяты, во гады... Умелі яшчэ падвешваць і ліць газу ў нос, што ж, гэтую культуру добра асвоілі прававерныя каталікі. Было нявесела, мне ўсе дзякавалі, але я маўчала...

Якраз захварэла Грышкевічыха, жонка таго Грышкевіча, што ўцёк у Саветы, гдзе яго між іншым у 1937 годзе расстралялі... Не доўга думаючы я прывезла ёй нейкага фэльчара са Славатыч, а калі пабачыла, што нікога ў яе няма, проста пасялілася ў іх у хаце і занялася лячэньнем хворай паводле радаў фэльчара, і дзяцьмі, і гаспадаркай. Хораша было, адно вельмі кусалі блохі. Паставіла я хворай банкі, зрабіла кампрэс (я адумыслова навучылася гэта ад мае мамы, якая лячыла нязгорш людзей). Рана я паліла ў печы, даіла, выганяла карову на пашу, а пасьля вадзіла на выган каня, хораша яго путала, і малы Коля, сын Грышкевічыхі (абое памерлі), яго даглядаў, а мы з малой Любусенькай (жыве цяпер у Пятрэвічах) йшлі рабіць нешта да хаты. Хто бачыў, каб паненка йшла тады ў сялянскую хату, ды яшчэ так працаваць? Можна здалёк спагадаць мужыком, але ўжо каб так ды сябе ўнізіць... Мае сваякі былі з гэтага ўсяго няшчасныя, і ў неўзабаве прыслаў мой тата па мяне коні і паклікаў дамоў. Доўга прашчалася я з усімі, праваджалі мяне, а калі аглянулася, дык заплакала — на дарозе стаяў малы Коля і заліваўся сьлязьмі. Удома было так добра, тата мне даравалі мае ўсе прынцыповыя выбрыкі, прызнаў чаcткова сваю віну, і я была зноў, як за плячыма ў Бога. З СССР Грынкевіч пісаў мне, дзякаваў за апеку над сям'ёю і благаславіў гадзіну, «калі я пераступіла парог іхняй хаты»...

Час ляцеў, і ўзімою перад Новым Годам мой дарагі будучы муж апавясьціў аб сваім прыезьдзе. Я не вельмі ўсьцешылася, не тое было ў галаве, хацела нат напісаць, каб ня ехаў, бо надта былі маразы, але паслалі ў Рось на станцыю добрыя коні, бурку цёплую, з якой шпарка выскачыў ля ганка стройны, худы, выгалены, элеганцкі Янка Геніюш, пражскі студэнт і амаль ужо доктар! Была гэта не простая штука, гутарыў пераважна з мамаю, якую ачараваў, а мне абяцаў разам, да канца нашых дзён, змагацца за Беларусь... Дамоў ужо не паехаў, толькі па паперы, каб ажаніцца. Відно было, што чалавек моцна пастанавіў нешта, не мог спакойна прайсьці ля мяне, лапаў усё, не толькі за рукі, аж я зазлавалася. Вечарам запаліла лямпу і думаю:



**Рэчка Ваўпянка.**

панясу яму, а быў ён у маім пакоі, калі будзе нявётлівы, дык я яму такога нагавару, што адразу заверне аглоблі, я яму пакажу вось цяпер, менавіта калі мы адзін на адзін! Уваходжу з лямпай, як каралева, падняўшы высака галаў. Мой будучы друг ветліва за яе дзякуе, цалуе мяне ў руку, і абое спакойна жадаем сабе добрае ночы... Такое джэнтльмэнства мяне канчаткова паканала, да таго цудоўная гутарка беларуская шырокая нейкая, нескупая натура гэтага беднага студэнта — усё раптам зрабілася мне несказана дарагім, і я падзякавала Богу ў душы за тое, што Ён усякімі дзіўнымі дарогамі прывёў яго з далёкіх Чэхаў у нашую хату. Неўзабаве згулялі вясельле. Белыя коні ў лёгенькіх санках чакаюць. Бацькі нас благаслаўляюць абразамі, мы на каленях, пацалункі, разьдзіраючы плач мамы, у Славачкі капаюць сьлёзы, Люся плача ўздрыгам. Пад пятку ў мой белы пантофлік палажылі грошы, каб яны вяліся ў мяне, у рукі далі цукер. Трэба кідаць яго на коні, дык будзе жыцьцё салодкае... Я ўсё выпаў-

**Ларыса Антонаўна, Іван Пятровіч і малы Юрка ў Празе.**

няю. У цэркві поўна народу. Мне сказалі: йдучы кругом аўтара наступаць мужу лёгка на ногу, гэта каб слухаўся... Перад вянчаньнем яшчэ падышоў з дружбантаў і шапнуў мне, каб моцна трымала мужа пад руку ў цэркві, каб ніхто між намі не прайшоў, што ён сам хацеў мне зрабіць гэта, але цяпер каецца... І так моцна трымаю сваягосужанага, цалуемся, нас вітаюць. Мой «Атэіст» толькі і рабіў, што хрысьціўся, калі нас вянчалі, знача, дзякую Богу... Удома чакаюць нас госьці, і далей усё, як на вясельлі: падарункі, госьці да відна, муж мяне носіць на руках, нават без вялікай намагі, і адразу адвозіць мяне ў Зэльву. З намі едзе яго мама і Славачка, які ад нас паедзе ў Жыровіцы ў школу...

Мне сумна, я многа тут пакідаю ў бацькоўскай сялібе, гэтым жыць буду вечна я і маё пяро. За сабою пакідала ўлюбёны прастор палёў, якія мяне ўзгадавалі, труднае жыцьцё, нялёгкую працу ў полі і на вялікай гаспадарцы, тапалёвы гай ля хаты і лес, які сама садзіла. Ён так хораша рос і ўжо гадаваў масьлячкі, рыжыкі. Тую вёску, якая мне столькі падсказала з мінулага, замурзаную крыху мо, але з душою, бы тая раса, якую я так разумела. Песьні яе пайшлі сьледам за мною. І я пакідала сваю сям'ю і той пятачок зямлі на вялікай планэце, мае Жлобаўцы, гдзе я ніколі не сумавала і не трэба мне было ніякага тапарыства, калі было поле, наш дом і лес; і весела сярод альшыны, якраз праз нашыя лугі, працякала любая рэчка Ваўпянка, поўная шчупакоў, плотак і багатая ракамі. Сумна мне будзе без тата, ён вельмі разумны, нейк усё бачыць, быццам адчувае наперад, толькі жаль мне, што Жлобаўцаў не разбудоўвае, не засаджвае болей садамі і лесам, жывецца там нейк з дня на дзень... Калі за нашай хатаю заходзіць сонца, дык робіцца аж страшна, быццам нехта адыходзіў назаўсёды. Халадок і ноч кладзецца на мае Жлобаўцы, як чорная небясьпека, як прадчуцьцё таго, што пасьля прыйшло. Вось і тата мой прадчуваў гэта ўсё відавочна і не разбудоўваў свой кут на вякі. Гэта ўжо здалёк рысавалася на небасхілах вайна і тое, што ходзіць з ёю. Калі мы ехалі з мамаю ў Ваўкавыск, гдзе меўся чакаць нас Яначка і разам з мамаю завесьці мяне да лекара, бо чулася я вельмі дрэнна і мама не хацела мяне хворай выдаваць замуж, тата нейк доўга туліў мяне да грудзёў, як ніколі. Лекар у мяне знайшоў язву дванаццаціперстнай кішкі, што пацьвердзілася пасьля і ў Празе. Муж пераканаў тады маму, што ён жа лекар, дык будзе мяне лячыць, і калі мы ехалі дамоў, дык прытуліў мяне і вёз, як дзіця. У мяне зрадзілася вялікае даверра да яго, здавалася, што ён добры чалавек, і гэта было галоўнае. Пасьля я расчаравалася ў гэтым, але гэта пасьля. А тым часам выйшаў тата на ганак спатыкаць нас з дарогі і на руках занёс мяне ў хату, сваяго сына ў спадніцы, які стараўся хоць крыху аблегчыць яго клопаты, разважыць яго, даць харошую кніжку, якія ён так жа прагна чытаў, як і я. Яго трывожыла няпэўнасьць нейкая мае будучай долі. Муж мой быў толькі яшчэ абсальвент мэдыцыны, належала яму яшчэ ў Чэхах здаваць дзяржаўныя экзамены, а гэта каштоўная і нялёгкая працэдура. Пасьля, не дадуць жа яму палякі працы ў сябе, бо і дыплом чэскі і муж беларус сьведамы, упарты, непахісны, такога ня купіш, не застрашыш, не перавыхаваеш болей на ніякі лад. Я ніколі нічога не плянавала, пляны — гэта домікі з карт, а ў сьвеце было такое ўсё нестабільнае, і вайна ў Гіспаніі кідала нецікавы цень на ўсю Эўропу. Я сабе думала: ну, што ўжэ будзе, калі двое людзей ідуць з чыстым сэрцам і з верай у харошае, дык жыцьцё жа іх не загубіць. Мне не давалі вялікай нейкай выправы, паводле слоў маяго мужа, гэта ўсё было лішнім, бо ж моды мяняліся там, гдзе ён жыве, далі нам проста вэксалі на кусок зямлі і крыху грошай. Небагаты мой муж нейк ня вельмі аб гэтым усім клапаціўся, здавалася — будзем жыць з ветру. Ці проста быў ён мужчынам, які заўсёды ўпэўнены, што так ці іначай на сваю сям'ю кусок хлеба заробіць. І так ішлі мы ў жыцьцё з ярым кляймом беларускасьці на чале. Йшлі насупраць з чыстым, адданым Айчыне сэрцам, усіх тых ворагаў, для якіх адна назова нашай Зямлі была нямілай.

**Працяг будзе.**

**Публікацыя і падрыхтоўка тэксту Міхася ЧАРНЯЎСКАГА.**

Фота **В. Ждановіча**, рэпрадукцыі з архіваў **Л. А. Геніюш, І. М. Чарняўскага.**

# Публіцыстыка








# ЧАРГА ДАЎЖЫНЁЙ У ЖЫЦЦЁ

З грузавіка таропка выстаўляюць на тратуар кардонныя скрыні. Прывезлі бананы. Увачавідкі расце даўжэзная чарга. Я звыкла займаю месца ў самым канцы. Наперадзе, як мінімум, гадзіна нуднага чакання. І кожны раз паўстае адно і тое ж пытанне: ці скончыцца гэта хоць калі-небудзь? Ці надыдзе дзень, калі можна будзе зайсці ў магазін і без усялякай штурхатні купіць усё, што табе патрэбна? І раблю выснову: не, гэта не скончыцца, такі дзень не надыдзе. Ва ўсякім разе для цяперашняга пакалення. Таму што чарга для нашага айчыннага гандлю — асмелюся сцвярджаць — спосаб існавання. І так званы новы гаспадарчы механізм у выглядзе самафінансавання і самаакупнасці, які выкарыстоўваецца ў беларускім гандлі ўжо не першы год, не толькі не дапамагае ліквідоўваць чэргі, а хутчэй наадварот.

Тэма гэта даўно набіла аскоміну, і калі б крытычныя стрэлы прэсы, радыё і тэлебачання ператварыліся ў рэальныя і трапілі па адрасу, то сярод кіраўнікоў гандлю, напэўна, сёння не засталося б жывых. Тым не менш, справа з месца не рухаецца. Падобна на тое, што людзі, якія па абавязку службы закліканы змагацца з гэтай ганебнай з'явай, канчаткова здаліся на волю стыхійнага лёсу. Усе надзеі ўскладваюцца на будучае таварнае багацце. Толькі цяпер ужо ні адно высокае ведамства не рызыкуе, як тое было раней, удакладняць, калі ж менавіта дастатак «пальецца шырокай плынню» і знікнуць змардаваныя, знясіленыя, азлобленыя чэргі. Як ні круці, а не абыдзешся без пытання: чаму іх няма ў тым свеце, што семдзесят гадоў «гніў» на нашых вачах, якія бачылі сваё грамадства і рэальна сацыялістычным, і развітым, і спелым, і канчатковым, але ніколі — сытым і добра апранутым? Цяпер, зацягваючы паясы, глядзім, як капіталізм «дагнівае» ў сваёй раскошы.

Многія, у тым ліку і высокапастаўленыя кіраўнікі, лічаць, што ўся прычына ў дэфіцыце. Вось будзе ў нас у дастатку тавараў, і тады, браткі, зажывём! У прыватнасці, міністр гандлю СССР К. З. Церах пры зацвярджэнні яго Вярхоўным Саветам СССР на пасаду запэўніваў: толькі дайце чым гандляваць, і ўсё будзе ў парадку. Не, не будзе. І не зажывём. Бо і праз трыццаць гадоў вітрыны нашых харчовых магазінаў наў-

рад ці будуць падобныя на тыя, якія ёсць ужо сёння ў Парыжы, Чыкага ці Стакгольме. А там жа ўвесь гэты час таксама не будуць сядзець склаўшы рукі. Можна пагадзіцца хіба з тым, што дэфіцыт з'яўляецца прычынай чэргаў. Але толькі адной з многіх прычын.

Дарэчы, дэфіцыт уласцівы і капіталістычнаму рынку. Толькі там гэта зусім не мыла і цукар, не соль і калготкі. Справа ў тым, што поўнае насычэнне рынку па ўсіх пазіцыях немагчыма ў прынцыпе. З'яўляецца першая партыя насценных тэлевізараў, і іх разбіраюць імгненна. Але прылаўкі запаўняюцца імі літаральна праз месяц, і хутка спажыўцы палююць за іншай навінкай. Вось чаму дэфіцыт там не стварае чэргаў. Людзі ўпэўнены, што калі тавар раскупілі, то хутка ім заваляць прылаўкі. Упэўнены. У гэтым сутнасць. У нас жа наадварот. Нават за тым, чым запоўнены былі склады, чэргі стаялі кіламетровыя. Успомніце, як зусім нядаўна мяхамі і скрынямі валаклі соль і запалкі, і транспартнікі, працуючы ў тры змены, не спраўляліся падвозіць тавар, а гэта яшчэ больш падагравала ажыятаж. Тое ж адбываецца перыядычна з алеем, воцатам, маянэзам і г. д. Наш дэфіцыт нервовы і непрадказальны.

Такім чынам, каб пазбавіцца чэргаў з гэтай прычыны, неабходна вярнуць насельніцтву давер да нашага гандлю. А гэта значыць вытрымліваць у магазінах пастаянны асартымент найбольш неабходных тавараў. Чарга за відэамагнітафонамі зусім не тое, што чарга за бульбай. Адным словам, патрабуецца ўмелая арганізацыя гандлёвага працэсу. Менавіта гэтага ў нас і няма. І дзівіцца тут няма чаго. Бо сёння мы, па сутнасці, не гандлюем, а дзелім. Толькі некалькі чалавек у Міністэрстве гандлю БССР непасрэдна займаюцца арганізацыяй гандлёвага працэсу, а большасць упраўленняў і аддзелаў заклапочаны тым, дзе здабыць тавар і як яго падзяліць паміж гандлёвымі кропкамі.

Трэба зазначыць, што і сама гэта дзяльба нейкая нервовая, хутчэй валтузня, чым дзяльба, выклікае ў пакупнікоў новыя хвалі няўпэўненасці.

...Я ўжо значна прасунуўся наперад у сваёй маўклівай бананавай чарзе, калі там, ля прылаўка, усчаўся гвалт:

— Які ветэран?! У вас там кожны тыдзень прысмакі! Дык яшчэ і тут ад людзей адбіраць! Не пусцім!!!

— Не даваць па дзесяць кіло! Вунь нас колькі стаіць, і ва ўсіх дзеці!

— Даваць толькі па два кілаграмы без усялякіх ільгот! — пастанаўляе чарга, і на некаторы час зноў становіцца ціха.

Вось так, без усялякай на тое законнай падставы, чарга ўстанавіла сваю «картачную сістэму», якую прадавец без пярэчанняў прыняла. Сістэма гэта нам добра вядома. Выканкомы нарадзілі яе спачатку ў «вусным» варыянце. Хлеба — 2 буханкі, цукру — 1 кілаграм, 2 бутэлькі спіртнога ў адны рукі... Потым зноў гарэлкі пачалі даваць, колькі хто пажадае, і ў вёсках купляць па 10—12 буханак хлеба, хоць яшчэ некаторы час назад за гэта амаль што аддавалі пад суд. Цяпер вось, у пачатку мінулай восені, у кожным магазіне вывесілі «норму продажу», дзе рэгламентавалі продаж некалькіх дзесяткаў харчовых тавараў. Гэта, зразумела, не ўсё. Увялі гандаль, а дакладней — дзяльбу па пашпартах. І на нашы штодзённа напятыя нервы абрынуўся новы вадаспад канфліктаў.

Неяк сустрэў у магазіне знаёмага, рабочага Мінскага аўтазавода Міхаіла Камара. Паставіўшы на падаконнік металічны кошык, ён перакладваў пакупкі ў сумку. Зверху паклаў зашмальцаваны пашпарт.

— Каб пад рукамі быў,— растлумачыў.— Трэба яшчэ сшыткі дзецям купіць. Бач, як пашпарт пашарпаўся. Ведама ж, кожны дзень у кішэні носіш, а работа ў мяне, сам ведаеш, не з чыстых. Яшчэ з месяц, і патрэбна будзе мяняць. Вось толькі ці заменяць...

У Доме абутку давялося назіраць і яшчэ адзін цікавы малюнак. Мужчына з украінскім акцэнтам тлумачыў падлетку:

— Вазьмі вунь там на паліцы чырвоныя боцікі. І табе яшчэ рубель рэшты застанецца.

Хлапчук ахвотна ўзяў грошы і пабег у аддзел. Падлеткам па нашых правілах дзяльбы прадстаўляць пашпарт не трэба, паколькі яшчэ не маюць.

— Цяпер і нам вальней,— дзялілася думкамі прадаўшчыца за святочным сталом.— Не трэба хаваць дэфіцыт і трэсціся. Выносім па аднаму ўзору на паліцу, купіць — другі прынясём. І хай хоць месяц ляжыць на складзе, ніхто не прыдзярэцца. А прадаць я змагу, каму захачу. Хто там ведае, па пашпарту куплялі ці не.

І гэты спосаб дзяльбы не толькі не змякчыў атмасферу сацыяльнай напружанасці, а, бадай, яшчэ больш абвастрыў яе. Як было ў свой час з дзяльбой тавараў праз прафсаюзныя камітэты. Так гандлёвыя работнікі вырашылі перакласці свае клопаты на іншыя плечы з відавочнай для сябе выгадай.

— Дзяльба выбівала з каляіны ўвесь калектыў на тыдзень, а то і больш,— расказвала супрацоўніца Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН БССР В. Мялешка.— Як кажуць, простаму смертнаму не даставалася нічога. Акрамя злосці і раздражнёнасці.

Такую ж сітуацыю можна было назіраць і ў іншых інстытутах Акадэміі навук, і на прамысловых прадпрыемствах. Сябры рабіліся ворагамі, усталёўвалася атмасфера ўсеагульнай жорсткасці, з-за спрэчак было не да працы. Добра, што прафсаюзы своечасова спахапіліся і паставілі пытанне катэгарычна — дзяльбу спыніць! Спынілі. Але яна па-ранейшаму засталася. Толькі цяпер тое, што дзеляць прафкомы, прадаюць магазіны. Працягваецца гандаль па пашпартах, выдаюцца талоны на цукар, мыла і пральны парашок. Дзяльба па-ранейшаму раскашуе. А жаданай сацыяльнай справядлівасці ўсё няма.

Як гэта ні прыкра канстатаваць, але мне здаецца, што варта прыслухацца да прапаноў вядомых эканамістаў, у прыватнасці Г. Папова, і ўвесці татальную картачную сістэму на ўсе тавары першай неабходнасці, уключаючы і адзенне, і абутак, і мэблю. Каб кожны чалавек быў упэўнены, што ён гарантавана купіць па адносна нізкіх цэнах самае неабходнае. Астатняе варта прадаваць на вольным рынку па цэнах, якія складуцца.

Перайсці на ўсеагульную картачную сістэму — значыць, прызнаць сябе беднымі, амаль што жабракамі ў параўнанні з астатнім светам. Быццам бы непрымальна для вялікай дзяржавы. Але ж картачная сістэма ў многіх рэгіёнах, па сутнасці, існуе і на мяса, і на масла, і на іншыя тавары, толькі ў неверагодна скажоным выглядзе. Вядома, брыдка, што будзем мы жыць па картках, як Румынія, Паўночная Карэя і Куба. У іншых цывілізаваных краінах картак не існуе, хіба толькі на атрыманне прадуктаў бясплатна, як, скажам, у Канадзе, ЗША і некаторых іншых дзяржавах. Але трэба глядзець праўдзе ў вочы. І тады наш гандаль замест дзяльбы зоймецца сваімі непасрэднымі абавязкамі і, магчыма, навучыцца гандляваць ветліва, культурна, без нерватропкі.

Думаецца, прыняць гэту прапанову нам перашкаджае не толькі боязь страціць прэстыж у вачах замежных партнёраў. Перашкаджае гэтаму і магутнейшы адміністрацыйна-дзяліцельны апарат, які можа застацца без работы. Што мы маем сёння? Міністэрства дзеліць фонды паміж абласцямі, абласныя ўпраўленні — паміж гарадамі і раёнамі, у раёнах — паміж магазінамі. Паперкамі заняты тысячы людзей. І раптам дзяліць не трэба! Трэба цывілізавана гандляваць, чаго гэтыя людзі якраз і не ўмеюць рабіць. Вось таму яны так і трымаюцца за манаполію дзяльбы, бо яна дазваляе ім бязбедна існаваць яшчэ на працягу невызначанага доўгага часу.

Гэта мёртвая хватка за манапольнае права перашкаджае рашэнню яшчэ адной глабальнай праблемы, якая самым непасрэдным чынам аказвае ўплыў на стварэнне чэргаў. Размова ідзе пра стан матэрыяльна-тэхнічнай базы гандлю.

Узровень забяспечанасці насельніцтва гандлёвымі плошчамі ў нашай краіне на 13—19 працэнтаў ніжэй, чым у Польшчы, Венгрыі, Балгарыі, на 36 працэнтаў ніжэй, чым у ГДР, і на 38 працэнтаў ніжэй, чым у Чэхаславакіі. Мы ўзводзілі заводы і фабрыкі, жылыя мікрараёны, а сацыяльна-бытавыя аб'екты ў апошнюю чаргу. Увесь папярэдні перыяд яскрава прадэманстраваў, што гіганцкія сістэмы дзяржаўнага гандлю і спажывецкай кааперацыі вырашыць гэту праблему не ў стане. З'явіліся першыя ластаўкі — фірменныя магазіны прамысловых прадпрыемстваў. Так першымі ластаўкамі яны і засталіся. «Электроніка», «Радыётэхніка», «Прамень»... Наўрад ці набярэцца іх па рэспубліцы некалькі дзесяткаў. Ды і большасць з іх узведзена зусім не за кошт саміх прадпрыемстваў. Калі б сетка фірменных магазінаў шырока распаўсюдзілася, калі б фабрыка атрымлівала выручку пасля таго, як тавар купіць канкрэтны пакупнік, калі б не былі гэтыя магазіны звязаны планам тавараабароту, манаполія на гандаль траха пахіснулася б. А пакуль што спажывецкая кааперацыя і міністэрства гандлю, падзяліўшы сферы ўплыву (на горад і вёску), працягваюць панаваць над насельніцтвам.

Толькі-толькі паднялі галаву кааператывы, якія ў будучым маглі б скласці канкурэнцыю гандлёвым манапалістам, як тут жа дзяржава прыгрэбла іх пад сваё крыло, падзеліўшы для продажу іх тавараў спецыяльныя секцыі і нават магазіны. Заўважым, забраўшы тыя плошчы, якіх у нас і так катастрафічна не хапае. Многія кааператывы ў стане былі пабудаваць уласныя магазіны, але да гэтага справа не дайшла. Манапалісты не дапусцілі. Інакш выручка напрамую ішла б на рахунак кааператываў, пакупнікі пайшлі б да іх за добрымі рэчамі, мінуючы дзяржаўныя магазіны. Што ж тады будзе з планам? Затое цяпер добра. Кааператыў купляе ў магазіне тканіну — адзін раз выручка, здае ў магазін гатовыя вырабы, іх

прадаюць — другі раз выручка, адзначым, пры адной і той жа колькасці рэальнага тавару. І вось з'яўляюцца ў гандлёвых справаздачах аптымістычныя лічбы аб росце таваразвароту на душу насельніцтва, работнікі магазіна атрымліваюць прэміі за перавыкананне плана, а па сутнасці ідзе «двайная бухгалтэрыя», якая зусім не падвойвае колькасць куртак на нашых плячах.

Мінулым летам жыхары сталічных мікраeasраёнаў былі прыемна здзіўлены, калі прама да іх сталі прыязджаць аўтафургоны з ласункамі паўднёвых садоў і бахчаў. І хоць цэны былі крыху вышэйшыя, чым у дзяржаўным гандлі, затое і ласункі былі. Для некага гэта здалося небяспекай. Нават на сесіі Вярхоўнага Савета СССР не саромеліся ў выразах у адрас кааператываў. Сталі паспешна гандлёва-закупачныя кааператывы закрываць. Ці прыбавілася ад гэтай акцыі тавараў на нашых прылаўках? Не. Затое прыбавіліся чэргі за памідорамі, кавунамі, дынямі ў дзяржаўным гандлі, які бессаромна прапануе нам гніллё па цане вышэйшага стандарту. Таму што цяпер ён ужо не баіцца. Манаполія адноўлена. І нідзе вы, дарагія пакупнічкі, не дзенецеся, усё роўна вернецеся да нас і возьмеце тое, што дамо. Таму няцяжка здагадацца, хто ж распальваў сярод людзей нянавісць да кааператываў, абвінавачваючы іх у спекуляцыі. Закрылі іх паспешна, не задумваючыся. А кааператывы ў агульным таваразвароце давалі ўсяго толькі некалькі працэнтаў. І, пэўна, сума спекуляцыі ў дзяржаўным гандлі перакрывала з лішкам увесь таваразварот кааператываў. Што ж датычыць несумленных людзей, то ў дзяржаўным гандлі іх не менш, але з гэтай прычыны ніхто магазіны не зачыняе.

Ва ўсім гэтым я бачу ўпартае супраціўленне адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая смяротна баіцца здольнага, ініцыятыўнага канкурэнта, бо сама ўжо даўно развучылася рабіць хоць што-небудзь мэтазгоднае. Зразумела, яна цалкам адвяргае і шырокамаштабны прыватны гандаль, хоць, як сведчыць сусветны вопыт, гэта выдатнае дапаўненне да буйных гадлёвых сістэм.

Возьмем, да прыкладу, Польшчу. Без так званых «прыватных склепаў» яе гандлёвая сфера была б у шмат разоў бяднейшая. Практычна ва ўсіх буйных гарадах у цэнтральнай іх частцы на першых паверхах дамоў — магазіны, магазіны, магазіны... Гарадок Плешаў напамінае наш раённы цэнтр. Якую гандлёвую сетку маем мы, напрыклад, у Лагойску? Універмаг, магазін гародніны, кніжны, некалькі яшчэ, у лепшым выпадку дзесятак. У тым жа 20-тысячным польскім гарадку іх колькасць пераваліла ўжо за паўсотню. Прыватнікі гандлююць і гароднінай, і кветкамі, і хлебам уласнага вырабу, і піражнымі, і прамысловымі таварамі. Без усялякіх дзяржаўных субсідый забяспечанасць горада гандлёвымі плошчамі практычна вырашана.

На адной з прэс-канферэнцый, якія пачаў праводзіць Савет Міністраў БССР у Доме палітычнай асветы, я запытаў:

— Ці мяркуецца распачаць у рэспубліцы прыватны гандаль? Каб браў чалавек тавары, якіх дастаткова, па аптовых цэнах і прадаваў у сваёй вёсцы па дзяржаўных рознічных.

— Над гэтым мы яшчэ не думалі,— быў адказ.

А шкада. Варта было б падумаць. Бо ў сотнях беларускіх вёсак ніякіх гандлёвых кропак няма наогул. Так званыя «крамы дома» гандлююць толькі тым, што даюць, асартымент іх мізэрны. Ды і крамаў такіх зусім мала. Для тысяч сельскіх пенсіянераў адзінай крыніцай пакупак сталі «аўталаўкі». І што яны прывозяць у вёску? Хлеб-соль, яшчэ што-кольвечы. Для параўнання скажу, што ў ФРГ агульны асартымент звычайнага аўтамагазіна — 600 відаў тавараў, 80 працэнтаў з іх — харчовыя. Гэтыя аўтамагазіны зроблены на базе серыйных мадэляў, абсталяваны халадзільнікамі і кантрольна-касавымі апаратамі. Некаторыя з іх працуюць на самаабслугоўванні. Заходзіш у фургон-салон, выбіраеш усё, што патрэбна, разлічваешся з прадаўцом-вадзіцелем у касе. Дзіўна, што мы, маючы ў рэспубліцы аўтазаводы-гіганты, ніяк не збяромся падумаць пра сельскі гандаль і яго пакупнікоў. Падобна на тое, што і не збіраемся думаць.

Між тым, перакананы, што знайшліся б у нас людзі, якія купілі б такі аўтамабіль і наладзілі гандаль у сваім рэгіёне. У Польшчы гандляры-прыватнікі дастаўляюць хутаранам практычна любыя тавары. Зразумела, з платай за паслугі. Паездка ў горад, страчаны час будуць каштаваць, бадай, не менш. Да таго ж, не ўсе маюць здароўе, каб штурхацца з вандзэлкамі ў аўтобусах.

Такая форма гандлю прыцягвае надзвычайнай прыстасавальнасцю. Буйному магазіну нявыгадна закупляць дзе-небудзь усяго некалькі вырабаў. Малую колькасць не будзе адгружаць і прамысловае прадпрыемства, там лік ідзе на кантэйнеры. Прыватнік жа на ўласным аўтамабілі, калі пажадае заказчык, можа сабе такое дазволіць.

Індывідуалы маглі б аказаць вялікую дапамогу і ў сферы грамадскага харчавання. Вядома, гаворка не ідзе пра перадачу ў прыватныя рукі дзяржаўных сталовых, як гэта мела месца пры арганізацыі некаторых кааператываў. Успамінаю безліч фургончыкаў-аўтапрычэпаў на вуліцах Варшавы, Познані, Закапанэ і іншых польскіх гарадоў. Гэта так званыя «хат-догі». Прама з электрычных духовак пакупнікам падаюць пышныя батончыкі, начыненыя шампіньёнамі, запечаныя ў цесце сасіскі ці каўбасу і проста гарачыя бутэрброды з кетчупам. Гэтыя гандлёвыя рады надзвычай мабільныя, хутка з'яўляюцца там, дзе ў гэты момант ёсць попыт на іх прадукцыю. Ці ж гэта не магчымасць вырашыць праблему чэргаў у месцах масавага адпачынку і масавых мерапрыемстваў? Прыпомніўшы нашы спрадвечныя піражкі з «мясам» дзе-небудзь на парапеце падземнага пераходу, міжволі задумаешся: чаму б і нам не зрабіць так?

Урад, аднак, пакуль што не задумваўся. А дзяржаўнаму гандлю і задумвацца не трэба. Як толькі бабуля выносіць на прывакзальную плошчу кацёл з «піражкамі», адразу расце доўгая чарга. І хоць начынка аддае ўчарашнім сталоўскім гарнірам, усё роўна бяруць. Бо іншага няма. А дзяржаўнаму гандлю і трэба, каб не было. Манаполія.

— Пазбаўце нас усяго на адзін-два гады ад вышэйстаячай манаполіі,— прасіўся дырэктар Вінніцкага універмага кандыдат эканамічных навук М. Малашэнка.— Вызвальце ад фондаў, планаў, дырэктыўнага каманднага, адміністратыўнага рэгламенту. Мы нічога не страцім, толькі больш папоўнім дзяржаўную скарбонку. Мы камерсанты. Мы пасрэднікі паміж вытворцам і спажыўцом. Навошта ж яшчэ чыноўнае пасрэдніцтва паміж вытворцам і камерсантам? Навошта гэта пасрэдніцтва пры пасрэдніку?

Не адказалі на гэта пытанне заслужанаму работніку гандлю шматпавярховыя кіруючыя будынкі. І ад бюракратычных путаў не вызвалілі. Няцяжка здагадацца чаму. Прадаўцы патрабуюцца і патрабуюцца, а вось дэфіцыту адміністратараў у канторах штосьці не адчуваецца. Былі быццам бы і скарачэнні, і змена структуры, і гасразлік, і арэнда, але сапраўднай свабоды дзеянняў не атрымаў ніхто. Бо бюракратыі ўдалося захаваць сваю галоўную сутнасць — шматступенчатасць кіравання.

У эканоміцы нельга сказаць «Б» наперад «А». У нас жа гэта зрабілі, як лічаць, напяхова. Уся гандлёвая галіна перайшла на самафінансаванне, але да таго моманту ніводнае нізавое звяно не стала па-сапраўднаму гаспадарча-разліковым. І цяпер паранейшаму кіраўнікі кідаюць тавар туды, дзе завальваецца план, і той, хто працуе выдатна, мала адрозніваецца заробкам ад таго, хто працуе праз пень-калоду.

Па майму перакананню, і міністэрства, і абласныя кіраўніцтвы гандлю, і іншыя адміністрацыйныя структуры ў такім выглядзе наогул не патрэбны. Яны маюць права на існаванне толькі ў тым выпадку, калі стануць абслугоўваючым звяном — будуць за плату падбіраць кадры для магазінаў, за плату закупляць тавар, за плату знаходзіць пастаўшчыка новай тэхнікі і г. д. Нізавыя прадпрыемствы павінны плаціць ім толькі за аказаныя паслугі. І не больш таго.

Жорсткае супраціўленне сустракаюць спробы ўсталяваць такі парадак. Маўляў, не

---

**Мастака Міхала АНЕМПАДЗІСТАВА, мінулагодняга лаўрэата «Маладосці», рэпрэзентаваць нялёгка. Цяжкасці пачынаюцца ці не з прозвішча, хаця і тлумачыцца яно даволі проста: адзін з яго прашчураў меў царкоўнаславянскае імя Анемпадзіст. Можа, менавіта ад яго нашчадкі атрымалі ў спадчыну ўтрапёнае, маладое памкненне да духоўнасці, да пошукаў у мастацтве?**

**Міхалу 25 гадоў, ён карэнны мінчук. Скончыў мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава, працуе мастацкім рэдактарам у часопісе «Бярозка».**

**У рэспубліканскіх выставах удзельнічае з 1986 года. Займаецца пераважна графікай. Міхалавы плакаты друкаваліся летась у жнівеньскім нумары «Крыніцы», а на каляровых уклейках «Маладосці» — рэпрадукцыі з яго жывапісных палотнаў, напісаных у стылі пост-мадэрн.**

**Жывапіс М. Анемпадзістава развіваецца ў двух накірунках. Першы можна было б вызначыць як бессюжэтны, фармальны («чыстае мастацтва»). Прызначэнне яго — інтэр'ерна-дэкаратыўнае, хаця паасобныя творы могуць жыць і сваім самацэнным, незалежным жыццём. Другі накірунак — творы, выкананыя па матывах язычніцкай міфалогіі («неапаганства»). Тут знаходкі фармальнага жывапісу ўзбагачаюцца, насычаюцца зместам. Інфармацыя падаецца гледачу з дапамогаю прыёмаў народнага, дахрысціянскага мастацтва. Знакі, элементы арнаменту — кожны з іх акумулюе ў сабе напаўзабытыя веды — спалучаюцца на палотнах у новыя знакавыя сістэмы.**

**Пажадайма ж Міхалу Анемпадзіставу творчага плёну і высокаадукаваных, чуйных гледачоў-суразмоўцаў!**

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

трэба спяшацца, трэба паступова... А за гэтым яскрава праглядаецца мэта — дайце дажыць да пенсіі. Аднак ніякія касметычныя меры справы не палепшаць. Патрэбен карэнны пералом сістэмы. Апаратчыкі ж жадаюць толькі такой перабудовы, якая дазволіць ім уседзець у сваіх крэслах. І розныя нашы дэфіцыты і чэргі — гэта не проста недапрацоўкі. Гэта дэманстрацыя апарату: вось бачыце, які хаос вас чакае, калі не будзе дзяльбы. І ляжыць на складах кава, а ў магазінах няма. І мяса даюць па 2 кілаграмы, а ў вёсках сяляне на каленях моляцца, каб хто-небудзь забраў свіней, і... Пералічваць можна шмат. Думаю, у сваёй агоніі апарат народзіць яшчэ нямала падобных прыкладаў.

Але, як кажуць, вернемся да нашых бананаў. З майго месяца ў чарзе ўжо добра відаць прылавак. Хаваючыся ад пранізлівага ветру, прыкідваю, ці хопіць бананаў мне. Прадавец завіхаецца ля звычайных стрэлачных вагаў. Робіць выгляд, што вельмі спяшаецца нас абслугоўваць, так што стрэлка вагаў часам не паспявае спыніцца на якой-небудзь канкрэтнай рысцы. Спяшаючыся, выдае рэшту. Часам адной-двух капеек недадае. Прапануе пачакаць, але пакупнік толькі махае рукой: маўляў, дробязь, добра хоць бананы купіў.

— Наступны!

А за спіною прадаўца вялізны і пусты магазін гародніны. За двума касавымі апаратамі, абсталяванымі электроннымі вагамі «Дзвіна», сумуюць жанчыны ў форменных халатах. Прыкідваю: калі б з дапамогай электронных вагаў папярэдне расфасавалі бананы і вывезлі іх у кантэйнерах у гандлёвую залу, усім нам, хто больш гадзіны стаіць у чарзе, не спатрэбілася б на пакупку і 15 хвілін. Прычым электронныя вагі імгненна вызначалі б і вагу, і кошт. І не давялося б прадаўцу змучана моршчыць лоб, вылічваючы, колькі каштуе 1 кілаграм і 832 грамы бананаў. Але яна моршчыць лоб, бо выгадна. Мы, пакупнікі, страцілі сама менш 200 чалавека-гадзін, а магазін — толькі дзве гадзіны. Час работы прадаўца аплочваецца, наш жа страчаны час для гандлю дармовы. Куды як добра ва ўмовах самафінансавання!

І не толькі ў гэтай выгадзе справа. Электроніка не памыляецца, выдае чэк, і заўсёды можна вызначыць, ці не прадалі пакупнікам пад відам дабротнага тавару адыходы, у тым ліку і планавыя. Гандаль усё ж любіць жывыя грошы. І чэргі таксама. Сціснуты чаргою пакупнік губляе многія свае правы. Мала хто асмельваецца папрасіць, напрыклад, замяніць падгніўшы памідор. Ён адразу сустрэне рашучы адпор як прадаўца, так і тых, хто стаіць за спіною: маўляў, давай праходзь, не затрымлівай людзей. І атрымліваецца, што галоўная мэта гандлю — задаволіць патрэбы кожнага пакупніка — становіцца перашкодай на шляху хутчэйшага атрымання гандлёвай выручкі. Выручцы ж заўсёды аддаецца перавага.

Ведаю прадаўца, якая ў сезон працуе і ўрочна, і звышурочна, без выхадных і святаў, у гарачыню і холад. Але, крый божа,— толькі не ў магазіне.

— Трэба «каваць» грошы — зімой адпачну,— тлумачыла яна.— Вядома, не іду на вынасны латок з якой-небудзь драбязой накшталт кропу ці пятрушкі. Толькі дэфіцыт — персікі, абрыкосы, чарэшня і г. д. Такі тавар пакупнікі выметуць падчыстую, за жменю гнілаватых ягад ніхто спрачацца не будзе, ды і чарга не дасць. З адной тоны чарэшні толькі за нарматыўныя адыходы можна пакласці ў кішэню паўсотні рублёў. Калі я на кожным кілаграме яшчэ накіну на сваю карысць грамаў пяць — ніякі рэвізор нічога не дакажа. Скажу: ну, вецер якраз падзьмуў. І гэта сама мала будзе рублёў 25. А калі яшчэ разам прадаваць і нестандарт... Што ты маеш? А я машыну за два гады купіла. Інакш хто б ішоў працаваць на нашу, прама скажам, брудную, катаржную работу?

Цяпер зразумела, чаму так часта выносяцца латкі на снег і дождж, чаму стаяць прымітыўныя вагі, калі побач пустуе велізарны магазін з электронікай. Кіраўнікі гандлю часта тлумачаць тым, што, маўляў, у магазіне будзе стоўпатварэнне. Чаму ж тады гэта стоўпатварэнне не перашкаджае гандляваць гарэлкай?

Тлумачаць такую з'яву і клопатамі аб пакупніку. У афіцыйных паперах гэта трактуецца так: «...прымаюцца ўсе меры па продажы тавараў насельніцтву за межамі гандлёвых залаў магазінаў. Гэта дазваляе прыблізіць тавар да пакупніка і скараціць час на яго продаж».

Сапраўды, час на продаж скарачаецца. Пакупнікі адлятаюць ад прылаўка ў залежнасці ад увішнасці прадаўца. Максімальны тавараабарот пры мінімуме затрат часу гандлёвых работнікаў. І гэта «выязная паслуга» толькі яшчэ больш параджае чэргаў.

...Гудзе натоўп ля прамтаварных прылаўкаў на Камароўцы. Тут тавар да нас наблізілі — бліжэй нельга. Няма ні часу, ні ўмоў ні на выбар, ні на прымерку. Балансуючы на адной назе на брудным кавалку кардону, спрабуеш прымераць туфлі, а праз тваю спіну ўжо нехта пацягнуўся да прылаўка. Штаны ці сукенку прымераць можна толькі тады, калі аднаполыя калегі згодзяцца абсталяваць сваімі целамі «прымерачную кабіну».





Пакуль мы душымся тут, на Камароўцы, за дэфіцытам, іншыя пакупнікі гэтак жа пакутуюць у магазінных чэргах, каб купіць звычайны тавар. У тых магазінах, адкуль прыбылі ганцы на рынак. Таму што іх рабочыя месцы там пустуюць. Тыя, хто застаўся, працуюць за дваіх. Час на продаж тавару скарачаецца, а вось на пакупку — ніколькі.

Новы гаспадарчы механізм парадзіў новыя чэргі і ў сферы грамадскага харчавання. Каб паабедаць у рэстаране, даводзіцца патраціць гадзіну і больш. І не таму, што не хапае пасадачных месцаў. Палова, а то і больш сталоў не абслугоўваюцца. Афіцыянты няспешна сервіруюць іх пад вячэрнія банкеты. Што для рэстарана нашы рублёвыя абеды, калі адзін добры банкет дасць у некалькі разоў больш? Зразумела, не лічачы яшчэ тых закусак і напіткаў, што застануцца пасля гасцей. Куды як выгадна хоць на гасразліку, хоць на арэндзе. І, вядома, выгадней прадаваць ліманад у гарачы летні дзень дзе-небудзь у парку, што і робяць многія афіцыянты ў сезон, чым завіхацца паміж абедзенных сталоў. А на сталах красуюцца таблічкі «Не абслугоўваецца». Гэта яшчэ і штрых да пытання аб недахопе пасадачных месцаў.

Выязны гандаль шырока практыкуе і спажывецкая кааперацыя. У недалёкім мінулым прадаўцы сельскіх магазінаў выязджалі не толькі на кірмашы ў райцэнтр, а і за межы рэспублікі. Дзесяткі тысяч рублёў дастаўляліся адтуль у мясцовы бюджэт, і ставілі ў прыклад тых, хто дабіваўся росту тавараабароту на «раённую душу». А тая самая душа стаяла пад дзвярыма з вялікім замком і разважала, калі ж зможа купіць хлеба ці солі.

Як бачна, і без дэфіцыту ў нас яшчэ далёка не ўсё ў парадку. Але пойдзем далей.

...Пасля работы заходжу ў гастраном. Гандлёвая зала перапоўнена. З дзесятка кас

7*

не працуе і палова. Адна касірша старанна лічыць грошы, другая пабегла дапамагаць нешта выгружаць, трэцяя... Як сведчыць статыстыка, у час найбольшага прытоку пакупнікоў, з 17 да 19 гадзін, не працуе кожны пяты касавы апарат. Самафінансаванне ў такой сітуацыі нават прыносіць карысць. Што з таго, што прадаўцы за гадзіну абслужаць усіх пакупнікоў, а пасля да канца змены будуць драмаць за касамі? Чым менш работнікаў занята пры адным і тым жа тавараабароце, тым вышэй зарплата.

Доктар эканамічных навук, прафесар В. Д. Патрушаў прыводзіць такія лічбы: затраты часу на пакупку тавараў у нашай краіне складаюць штогод 65 мільярдаў чалавека-гадзін. Гэта без уліку часу, затрачанага на пошук патрэбных тавараў. Гандаль жа на продаж гэтых самых тавараў затрачвае часу ў многа разоў менш. Ён нясе адказнасць, ды і то фармальную, за выкарыстанне сваіх ведамасных чалавека-гадзін, забяспечаных зарплатай. Мільярды ж нашых гадзін для іх бясплатныя. Больш таго, гандаль павялічвае прадукцыйнасць працы, аб'ём тавараабароту і, адпаведна, уласную зарплату за наш з вамі кошт, дакладней, за кошт нашага часу.

Колькі гадоў таму шырока рэкламавалася і ўжо трывала ўвайшла ў практыку работы спецыялізацыя гандлёвай сеткі. Як добра! У магазіне «Радыётэхніка» — літаральна ўсё. У магазіне «Сантэхніка» — таксама. І г. д. Толькі як за кошт гэтай самай спецыялізацыі выраслі чэргі і марнуецца наш пакупніцкі час!

— Што гэта робіцца! — абураўся сябар.— Капеечная пракладка да крана спатрэбілася, дык давялося ехаць на другі канец горада. Дзве гадзіны страціў — і дарэмна. Не было.

Наша рэчаіснасць парадзіла і яшчэ адзін феномен, невядомы, бадай, нідзе — чаргу за нічым.

Мінчане ды, напэўна, і многія госці беларускай сталіцы памятаюць, як адкрывалі новы магазін «Мода» на Ленінскім праспекце. Чарга ля яго дзвярэй у першыя дні зрабілася неад'емнай дэталлю гарадскога пейзажу. Дарэмна стараліся разгледзець пакупнікі скрозь вітрыны, што ж там такое моднае ёсць. Але спадзяваліся, што будзе. Стаялі. Зайшоўшы праз гадзіну-паўтары ў гандлёвую залу, паблукаўшы сярод вешалак, праз некалькі хвілін пераконваліся, што нічога патрэбнага для іх няма, і выходзілі з пустымі рукамі. Чарга за нічым...

Зразумела, няправільна было б вінаваціць у нашых бясконцых чэргах толькі гандаль. Не ў меншай меры вінавата ў гэтым прамысловасць. Не будзем гаварыць пра дэфіцыт. Будзем пра тое, што можна зрабіць у самы бліжэйшы час, каб хоць неяк пазмагацца з чэргамі.

...У вясковым магазіне стаіць цярплівая чарга. Прадавец саўком насыпае каму вермішэль, каму крупы. Людзі рухаюцца павольна. А той жа кілаграм вермішэлі можна было б купіць за некалькі секунд. Умова адна — у папярэдняй расфасоўцы.

У 1989 годзе прамысловасць пастаўляла ў гандаль толькі палавіну ад агульнай колькасці расфасаваных тавараў. Прычым, напрыклад, цукру толькі 14 працэнтаў, круп — 38 працэнтаў і г. д. Работнікі гандлю вымушаны фасаваць тавар прама ў магазінах, часта саматужным ручным спосабам. У рознічным гандлі ў рэспубліцы гэтым займаецца больш дзвюх тысяч прадаўцоў. Як жа пры такіх умовах не быць чэргам?

Дарэчы, калі б наш гандаль меў самавітэ тэхнічны ўзровень, не толькі гэтыя, але і іншыя работнікі наўрад ці спатрэбіліся б.

Напэўна, усім добра знаёмы малюнак. Жанчына, што пільнуе сумкі пакупнікоў у гардэробе, накручвае на палачку, як дзікуны, здабываючы агонь, папяровыя касавыя ленты. Самадзейныя наватары прапанавалі спецыяльныя машынкі накшталт тых, што выкарыстоўваюцца пры перамотцы кінаплёнкі, але іх прапанову пакінулі без увагі.

Калі б добрая тэхніка... Якая? Давайце спачатку паспрабуем вызначыць, на якім узроўні развіцця гандлёвай тэхнікі знаходзімся мы ў канцы XX стагоддзя ў параўнанні з іншымі краінамі?

У нашай рэспубліцы ёсць сотні арганізацый колькасцю 200—300 чалавек. Многія маюць невялікія сталовыя, дзе працуе каля дзесятка чалавек. І ўсё роўна, як і ў нашым Доме друку, людзі стаяць у абедзенны час у чарзе, назіраючы, як раздатчыца няспешна налівае чарпаком каву ці калупае лыжкай гарнір з пярлоўкі. А ўвесь штат работнікаў такіх сталовых мог бы замяніць усяго толькі адзін гандлёвы аўтамат сучаснага ўзроўню.

Ва ўсім цывілізаваным свеце імі карыстаюцца рабочыя, студэнты, медыцынскі персанал бальніц, гледачы ў кінатэатрах, пасажыры на вакзалах і нават у цягніках. І асартымент там зусім не такі заняпалы, як у нашых дзесяціштатнаадзінкавых сталовых. Шэсць відаў бутэрбродаў, гароднінныя салаты, першыя і другія стравы, смажаныя, заліўныя, пражаныя ў гаршчочках з некалькімі відамі гарніру. Цэлыя комплексныя абеды змяшчаюцца на ўпаковачным латку пад празрыстай плёнкай. Разам з абедам падаюцца два мініяцюрныя плёначныя пакецікі: у адным — кетчуп, у другім — соль. Заўважу, што ад моманту апускання грошай у аўтамат да выдачы пакупкі праходзіць 35 секунд.

Такія аўтаматы можна ўстанаўліваць цэлымі комплексамі, ствараючы цалкам аўтаматычныя кафэ. Дарэчы, нашы шматлікія буфецікі «на хуткую руку», якія займаюць немалыя плошчы (іх не хапае), не ў стане скласці канкурэнцыю нават аднаму аўтамату фірмы «Вітэнборг» (Ай Эн 500, Данія), што выконвае тую ж функцыю. Кава двух гатункаў (напрыклад, мока і арабіка) у 4 варыянтах кожная, чай у 4 варыянтах, 2 варыянты шакаладнага напітку (халодны і гарачы), булён, 2 віды ахаладжальных безалкагольных напіткаў, 2 варыянты малочнага кактэйлю, па жаданню можна ўзяць і лімон.

Шырока выкарыстоўваюцца за мяжою аўтаматы і ў гандлі прамысловымі таварамі. Ужо некалькі гадоў назад на станцыях Парыжскага метро стаялі аўтаматы, якія прадавалі джынсы. Дастаткова памераць талію спецыяльным поясам з электроннымі датчыкамі, увесці звесткі пра ваш рост (ёсць спецыяльныя кнопкі), апусціць грошы — і атрымаеш запакаваныя джынсы праз акенца выдачы.

Ну, а калі дадаць, што ў японскіх магазінах пакупніка ад самай аўтамабільнай стаянкі суправаджае аўтаматычная цялежка і праводзіць з пакупкамі назад да аўтамабіля, а ён толькі ідзе збоку, то можна яскрава ўявіць, колькі дзесяцігоддзяў нам спатрэбіцца на тое, каб дасягнуць узроўню ўчарашняга дня развітых краін. Думаю, яшчэ не хутка ўбачым мы аўтаматы, акрамя тых, з якіх трэба кулаком выбіваць паўшклянкі цеплаватай газіроўкі, ды яшчэ для гэтага пастаяць у нашай нязменнай чарзе.

Наш нераспешчаны сэрвісам пакупнік з цяжкасцю паверыць у гэта. Фантастыка, ды і годзе. Між тым, ЗША гандлююць праз аўтаматы ўжо больш 100 гадоў. Па заказу нацыянальнай асацыяцыі фірм, што эксплуатуюць гандлёвыя аўтаматы, Гудзонаў інстытут склаў прагноз развіцця гэтай галіны да XXI стагоддзя. На жаль, пра прагнозы нашых вучоных у гэтай галіне пакупнікам невядома нічога. Хутчэй за ўсё таму, што такога прагнозу не існуе ўвогуле, а калі і ёсць, то, відаць, яго сорамна абнародаваць, бо ў апошні час ужо многія нашы грамадзяне атрымалі магчымасць параўноўваць нашы сённяшнія набыткі не з дарэвалюцыйным айчынным узроўнем, а са станам спраў у суседзяў па той бок мяжы.

Але параўнаннямі сыты не будзеш. І хочацца пажыць па-чалавечы ў сваёй Айчыне. Будучыня, аднак, не вельмі суцяшальная. Дэфіцыт тавараў яшчэ доўга будзе ліхаманіць наша грамадства. Аднак усе астатнія прычыны чэргаў можна і трэба лiквідаваць у кароткі тэрмін, за якую-небудзь адну пяцігодку. Трэба толькі рашуча зламаць адміністратыўна-дзяльны механізм у гандлі і даць у рэшце рэшт свабоду дзеянняў ініцыятыўным і знаходлівым людзям, зрабіць іх сапраўднымі гаспадарамі сваёй справы. Толькі тады з'явіцца надзея, што чэргі будучага пакалення не стануць даўжынёй у жыццё.

**Іван ГЕРАСЮК**

Фота **С. Брушко.**



# ЗАМІЛАВАНАСЦЬ

Бясспрэчнае: каб зразумець паэта, трэба пабыць на радзіме паэтавай. Але я хацеў бы, не пярэчачы бясспрэчнаму, падаць і такое: каб зразумець паэта, трэба пачуць, як ён чытае свае вершы. Згадайце хай і недасканалыя тэхнічна запісы галасоў Янкі Купалы, Сяргея Ясеніна, Уладзіміра Маякоўскага. (Няхай акторы застаюцца пры сваім: чытае як паэт, значыць—кепска.) Праўда, сярэднеарыфметычныя рыфмавальнікі і па галасах падобныя, і па вершах таксама. Але калі чытаеш сапраўдную паэзію, у думках чуеш ці, прынамсі, стараешся пачуць голас творцы.

Упершыню на вечары паэзіі, на вечары сустрэчы філфакаўцаў нашага універсітэта з беларускімі паэтамі, пачуў я, як чытаў свае вершы Мікола Аўрамчык. Крыху спяваў. Крыху расцягваў кожны склад, нібы каваль выцягнутае з горана гарачае жалеза. Крыху няўпэўнена. Але дужа даверліва. Запрашаў да ўзаемнасці, да суперажывання. Усе госці чыталі вершы ўпэўненыя, з абавязковымі, як ім самім здавалася, нечаканымі канцоўкамі. Быў 1956 год. Вярталіся з нябыту імёны новыя і новыя, вярталіся са сталінскіх паўночных «дамоў творчасці» ацалелыя адзінкі беларускіх паэтаў і празаікаў. Але ў паэзіі яшчэ адчувалася інерцыя ўра-чыстых настрояў. З аднаго боку «ўра!», а з другога чыстыя, як дыстыляваная вада, чыстыя ўжо ад культу, але яшчэ і ад думак і душэўнай глыбіні чыстыя. Радкі Аўрамчыка запомніліся:

Толькі у мяне
                    з табой
                              ды з песняй
Штосьці ўсё не так, як у людзей.

З гадамі дайшоў сэнс гэтых на першы позірк простых радкоў. Паэт не тое, каб не верыў сабе, не тое, каб не ведаў, як яму пісаць і пра што, а па творчаму праву і абавязку сумняваўся, вагаўся, правяраў сябе, раіўся і раіў задумацца над вечнай праблемай творчасці, мастацтва, спасціжэння сэнсу жыцця.

Імя Міколы Аўрамчыка запомнілася мне са школы. Недзе ў сярэдзіне 1953 года на паліцах кнігарні прывабіла маё вока ашчадна выдадзеная кніжка вершаў «Шляхамі дружбы». Трэба зазначыць, што мае ўшацкія землякі, як і цяпер, гэтак і тады, не чыталі паэзіі. Пакупнікамі і спажыўцамі паэтычнага беларускага слова былі мы, удзельнікі літаратурнага гуртка «Узлёт», якім кіраваў наш настаўнік Канстанцін Баразна. Як сёння, помню навобмацак цупкую кніжку з чырвоным сцяжком на вокладцы. Яшчэ на кожным кроку вайна напамінала пра сябе. І дужа блізка да сэрца гарнуліся радкі:

Ледзь толькі кулямёт паспеў са стужкі
Астатнія патроны праглынуць,
Як раптам, прыляцеўшы знекуль, птушка
Салдатам абвясціла пра вясну.

Не па кніжках ведаў я, як кулямёт косіць усё жывое, сам страляў і з сапраўднай партызанскай бацькавай вінтоўкі і з самаробнага пісталета. Але толькі паэт мог убачыць, як кулямёт глытае патроны. Цікава гучала і слова «знекуль», перагукваючыся з куляй, не названай у вершы, але прысутнай у радках. Не было традыцыйна гучна-пустых слоў і ў вершы «Салдацкая сляза», няхай сабе і крыху былінна-пафасна абмаляваны «плячысты беларус-асілак»:

...упершыню зусім—
                    не горкім потам—
Шчака на сонцы бліснула слязой.

Не думаў я тады, калі чытаў вершы Міколы Аўрамчыка, што шмат гадоў давядзецца сустракацца з паэтам, насіць яму свае вершы, чуць ягоныя парады, адчуваць ягоную далікатную падтрымку разам з іншымі пачаткоўцамі. Здаралася быць і першым слухачом вершаў Міколы Аўрамчыка. Ён дзяліўся радасцю задум, ахвотна правяраў на маладым свае вершы.

З дня заснавання часопіса «Маладосць» Мікола Аўрамчык быў загадчыкам аддзела паэзіі. Гэтага і ўявіць немагчыма, колькі рукапісаў (менавіта ад рукі напісаных) прачытаў уважліва, добразычліва, спагадна. Праз ягоныя рукі прайшло тысячы тысяч вершаваных радкоў, праз ягонае сэрца прайшло некалькі пакаленняў беларускіх паэтаў. Пералік імёнаў зойме некалькі старонак. Назаву выбарачна некаторых «хрэснікаў» Міколы Аўрамчыка—Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Сымон Блатун, Кастусь Цвірка, Анатоль Грачанікаў, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Яўгенія Янішчыц, Юрка Голуб, Рыгор Семашкевіч, Алесь Разанаў, Алег Салтук, Уладзімір Някляеў, Пятро Ламан і дужа шмат хто яшчэ. Калі галоўным рэдактарам «Маладосці» быў усімі любімы (акрамя тагачаснага чынавенства ад ідэалогіі) Пімен Панчанка, Генадзь Бураўкін у вясёлым настроі імітаваў Міколу Аўрамчыка: «Я вазьму, а Пімен...» і пры гэтым разводзіў рукамі рыхлік як загадчык аддзела паэзіі часопіса. Мы ўсе любілі хадзіць у «Маладосць» да Колі Якаўлевіча, як называлі мы яго за вочы пракудна-пашанліва. Па часе пачынаю здагадвацца, што з-за клопатаў пра ўсё наступныя і наступныя пакаленні паэтаў беларускіх, хачу падкрэсліць: з-за клопатаў, а не службова-рэдак-

**У палацы трактарнага завода. Выступае Мікола Аўрамчык. Сядзяць Сяргей Грахоўскі, Вольга Іпатава, Васіль Быкаў, Анатоль Грачанікаў, Анатоль Вярцінскі.** 1981 г.



**Маладыя беларускія пісьменнікі ў гасцях у Якуба Коласа. Злева—направа: Якуб Колас,** (у першым радзе) **Іван Шамякін, Мікола Аўрамчык, Кастусь Кірэенка, Антон Бялевіч, Іван Грамовіч, Іван Мележ,** (у другім радзе) **Аляксей Русецкі, Янка Брыль, Анатоль Вялюгін.** 1949 г.

Фота **У. Лупейкі.**

цыйных абавязкаў, Мікола Аўрамчык няйначай багата недапісаў свайго, недаказаў вынашанага, выбалелага. Пра шчодрасць душы, пра жаданне падзяліцца ўсім самым дарагім сведчаць шматлікія прысвячэнні, па якіх, як і па вершах паэта, можна чытаць геаграфію і біяграфію. А біяграфія Міколы Аўрамчыка трагічная, ахвярная. Вайна перапыніла вучобу. Сам паэт у аўтабіяграфіі «Пра сябе» піша: «Вестка аб вераломным нападзе гітлераўскай Германіі на нашу краіну застала мяне ў інстытуцкай чытальні, дзе я рыхтаваў апошні экзамен за трэці курс. Уначы 26 чэрвеня з Міколам Сурначовым мы пакінулі ахоплены полымем Мінск...» На Паўночна-заходнім фронце ваяваў гвардыі радавы Мікола Аўрамчык у дывізіёне «кацюш». А ўлетку 1942 года пры акружэнні каля Мяснога Бору на Волхаўскім фронце трапіў у палон і быў вывезены на каменнавугольныя шахты Рура.

Цяперашні малады і ўявіць сабе не можа, як было жыць чалавеку, у якога ў анкеце стаяла: быў у палоне. Сталінскі рэжым бязлітасна на кожным кроку напамінаў пра гэтую пляму ў біяграфіі чалавека, якому пашанцавала яшчэ выжыць пасля сваіх лагераў, пасля айчыннай катаргі. І калі чытаць памянёную ўжо аўтабіяграфію паэта, вонкава ўсё бясхмарна: «Толькі ў канцы красавіка 1945 года я быў вызвалены англічанамі і перасяленьі ў размяшчэнне савецкіх войск. З паўночнай Германіі наш батальён прыйшоў у Беласток. Адтуль мы паехалі на Украіну. Я аднаўляў Данбас, працаваў на ўскраіне Данецка столярам у Рутчанкоўскім дрэваапрацоўчым камбінаце. У выніку ўсяго гэтага і была напісана нізка вершаў «Легенда аб залатой зям-





**З Іванам Мележам на набярэжнай у Ялце.** 1957 г. Фота **І. Струкоўскага.**



**У Каралішчавічах з Аркадзем Куляшовым.** 1963 г. Фота **А. Дзітлава.**

лі». З адных шахтаў на другія. Бо ў Нямеччыне набыў былы студэнт літаратурнага факультэта новую прафесію, яна і спатрэбілася на радзіме, якая не давярала, карала, абражала, бо жыла па сталінскіх канонах, па сталінскай канстытуцыі, услаўленай акынамі, ашугамі і ўсімі, хто ўмеў і не ўмеў рыфмаваць. Заўважце, нізка называецца легенда. Цяпер гэта гучыць як прытоеная іронія, а ў часы, калі пісалася нізка, іначай і нельга было называць. Зямля павінна была быць не проста зямлёй, а залатой абавязкова. Аднак сапраўдны паэт застаецца паэтам у любых абставінах жыццёвых і палітычных. У Данбасе быў напісаны адзін з лепшых вершаў Міколы Аўрамчыка, цяпер ужо хрэстаматыйная «Беларуская сасна». Сам Пімен Панчанка пазней так ацаніў верш: «У многіх паэтаў ёсць адзін верш, у якім нібыта сканцэнтравана ўся сутнасць і асаблівасць іх паэзіі. У М. Святлова гэта «Гранада», у Я. Смелякова—«Калі я захварэю...», у С. Арлова—«Яго зарылі ў шар зямны» і г. д. У М. Аўрамчыка такім вершам яназваў бы «Беларускую сасну»... Тут усё хораша: і думка, і сюжэт, і вобразнасць. Адразу адчуваеш і гордасць за сваю працу лірычнага героя, і любоў да роднай Беларусі з баравымі соснамі. Але галоўнае—верыш шчыраму даверліваму голасу паэта. У гэтым увесь Аўрамчык з яго яснай паэзіяй, з любоўю да радзімы, да людзей працы, з вернасцю франтавому сяброўству, з няўтольнай прагай пабольш паездзіць па свеце...» Адзін верш выклікаў гэтульki асацыяцый, думак, развагі у народнага паэта Беларусі, чыя думка высока цанілася і цэніцца не толькі ў нашай Беларусі.

Шахцёрская, калі яе можна так назваць, тэма праходзіць праз усю творчасць паэта. І зразумела было жаданне Міколы Аўрамчыка не проста пабыць у маладым горадзе на першых беларускіх шахтах Старобіншчыны, якая пасля стала Салігоршчынай, а папрацаваць, каб напісаць вершы ў зусім іншых умовах. І былі першыя нізкі вершаў, і была кні-





**З Янкам Брылём. У Галодным стэпе Узбекістана.** 1968 г. Фота **У. Калесніка.**

га лірыкі «Сустрэча былых канагонаў». Імя кнізе даў аднайменны верш, прысвечаны Паўлу Беспашчаднаму, шахцёрскаму паэту. Праз колькі год усё прыгадвалася:

Паўзмрочная капальня ў дымным Руры,
І ў ёй не я,
а сноўдае штодзень
Шкілет,
які яшчэ абцягнут скурай,
Ды на сцяне—
чужы, сутулы цень.

Перачытайце, які дакладны малюнак, нібы наскальны, скупы і ёмісты. Колькі гаворыць пра пакуты шкілет, «які яшчэ абцягнут скурай». Слова яшчэ акцэнтуе ўвагу. Чалавек ужо толькі цень. Падняволнік яшчэ жыве, але ўжо не пазнае ўласнага ценю, чужым здаецца свой цень.

Помню раніцу маладой зімы. Мікола Аўрамчык чытаў мне па памяці, смакуючы кожнае слова, вывяраючы яго:

Закончылася змена.
Як у сне,
Мы з клеццю на паверхню паляцелі...

Мне, яшчэ не канчаткова з'урбанізаванаму ўшацкаму мальцу, на момант здалося, што ў казцы ляцеў паэт у клеці. Бо мне клець—перш за ўсё прыбудова. Клець была і ў песнях—і лірычных, і фрывольных, як у той вясельнай: «Мамулечка, ў клець вядуць...» Канкрэтнае, вякамі атайбаванае слова набывала новае значэнне, новае адценне. Знікаў сялянскі, спаконны пласт мовы, знікаў генетычна нязводны пласт сялянскага побыту. Паэт з усёй шчырасцю радаваўся новым абрысам беларускага далягляду, які традыцыйна заканчваўся вершалінамі ялін ці сосен. «Засланяючы даль краявіду, Узняліся ўгару тэрыконы, Шмат вышэйшыя за піраміды, Збудаваныя пры фараонах». Паэт не ведаў, якой бядой абернуцца гэтыя тэрыконы на Беларусі,

пагражаючы засаліць самыя ўрадлівыя землі. Гэта пазней славутыя слуцкія бэры зрабіліся салёныя на смак. А яшчэ пазней, пасля чарнобыльскай трагедыі, на бэры пачалі вымяраць радыяцыю. Зноў слова беларускае змяніла свой сэнс пад націскам непрадуманага прагрэсу. Не ведаў паэт, і яго нельга вінаваціць за гэта, што і ў вершы «Адлёт жураўлёў», які высока ацаніў Якуб Колас, наіўна просіць крылатых вандроўнікаў: «Не сумуйце па родных балотах». Бо «...на месцы балот неўраджайных, Дзе ніхто не мог гнёзды чапаць, Трактары загрукочуць, камбайны, Пахавае дрыгву сенажаць». Верш пісаўся ў 1938 годзе на золку меліярацыі, калі яшчэ ў самую сілу ўваходзіў заклік не чакаць літасці ад прыроды.

Да балючай тэмы палону вяртаўся і вяртаўся паэт, і ў прыватнасці ў паэме «Волхаўская споведзь», у якой удаліся і сцэны лірычнага плану і сцэны жаху. У самым пачатку нечаканая рыфма «у Ноўгарад — зноў гарадзь» актывізуе ўвагу чытача, робіць радкі напружанымі. Пра скінуты чужынцамі звон у Волхаў:

Цячэ няспынна плынь па дне,
Язык пагойдвае ў зване.

Багаты гукапіс ствараюць і зычныя і паўгалосныя, а канцавое «е» як быццам балюча енчыць. Ці яшчэ хочацца цытаваць узоры малюнку і гукапісу:

Зноў парушае неспакой
Віскдівым скрыпам гэта птушка:
Пілуе сэрца асакой...

У палоне асабліва выразна паўстае роднае даваеннае хараство, і ў няволі душа сумуе па прыгажосці, і вока знаходзіць незабытую вабнасць.

Былі вяснушкі на шчаках
Смуглявай гэтай гараджанкі,
Нібы радзімкі на баках
Налітай сонцам сапяжанкі.

Дзяўчыну Груню закаханыя хлапцы проста назвалі Грушай. І ў памяці беларуса ўсплывае сапяжанка. Наваг плямкі на баках грушы называюцца радзімкамі, каб хоць гэтым словам нагадаць пра радзіму, па якой пакутуе герой паэмы. Потым вяснушкі праступяць у вершы на волі, у вершы 1958 года:

Тое ж крапінне рабое —
На шчаках яе дачушкі...
І смяёмся мы абое:
— Ах, вяснушкі!..
— Ах, вяснушкі!..

Прывёў гэтыя радкі, і зноў загучаў мне голас Міколы Аўрамчыка. Здаецца, у чарговай аўдыторыі выступае ўзнёслы паэт. І павёў мяне гэты шчыры голас, зноў вярнуў мяне гэты па-даваеннаму наіўны голас у падзеі паэмы «Волхаўская споведзь». І яшчэ раз пацвердзіў паэт, што толькі перажытае кранае, толькі перажытае ўражвае. Трэба пахадзіць пад прыцэлам канваіра, каб напісаць:

Але іспанец на яго
Зноў утаропіўся з-за спіны
Глыбокім позіркам
                    свайго
Праніклівага карабіна.

Эпітэт «пранікліву» ў дадзеным кантэксце набывае зусім новае адценне. Гэты жалезны позірк пратне наскрозь, пранікне куляй, закрэсліць маладое жыццё. Ён жахам пранікае, неадступна сочачы за ахвярай. Жахае толькі голая канкрэтнасць смерці, немінучасці, наканаванасці, а не крыклівыя і самыя мудрагелістыя ў сваім жаданні напалохаць дэталі і вобразы.

Дапускаем, што герой паэмы (помнячы пушкінскае: «Спяшаю розніцу заўважыць паміж Анегіным і мной») напярэдадні вайны ў камсамольскім парыве зрываў крыжы з купалоў храмаў, цягаў папоў за бароды, апярэджваючы пазнейшую кітайскую хунвэйбінаўшчыну, але абраза памяці, святыняў асабліва балюча адчулася ў няволі.

Пад каменедрабілкі пошчак
Брук узрывае кіркай ён,
Дзе Неўскі
                    некалі на плошчы
Вёў крыжаносцаў у палон.

Нібыта рве
                    не камяні,
Адшліфаваныя вякамі,
А продкаў чарапы
                    ў агні
З зямлі выкопвае рукамі.

Другі слупок пачынаецца з мужчынскай рыфмы. Невыпадкова. Большая націскасць, цвёрдасць, парыўнасць, рэзкасць. І не рыфма з «вякамі» пацягнула за сабой слова «рукамі». Асабліва жудасна рукамі выкопваць чарапы ды яшчэ родныя, балючыя. І натуральна пасля ўсіх жахаў надзвычай хочацца мірнае красы. Таму і парашут адухаўляецца, надзяляецца рысамі хлапечага замілавання:

На водняй гладзі,
                    як лілея,
Раскрыты парашут бялее.



Ды і ў гэты бясхмарны ва ўспаміне абрыс роднай волі ўрываецца вайна з яе рэаліямі.

На ім чырвоныя тычынкі,
Ірдзеюць кропелькі-крывінкі.

Два колеры жыцця, белы і чырвоны, чырвоны і белы. Палоска світання праразае белае палатно туману. Мірны час. Пісяг крыві праступае праз белізну бінту. Грозны час вайны.

У паэме «Волхаўская споведзь» Мікола Аўрамчык сродкамі ліраэпасу хацеў паказаць вайну, палон, няволю праўдзіва, без акрас. Але пісалася паэма ў гады, калі ўсё настойлівей і пагрозлівей патрабавалі пісаць толькі ў адным тоне — ружовым, а найлепей ружавата-салодкім. Даводзілася шмат што недагаворваць, шмат што ўтойваць. На аўтару, як і на большай частцы грамадства, яшчэ ляжаў страх паўтору сталіншчыны. Калі быць шчырымі, дык і дагэтуль не пазбыліся мы ад гэтага ўжо генетычнага страху.

Больш псіхалагічным паказам палону, працы ў шахтах Рура вызначаецца раман Міколы Аўрамчыка «У падзямеллі». Лёс рамана, як і аўтара, быў нялёгкі. Напісаны пасля хрушчоўскай адлігі, ён не па надвор'ю прыпаў на брэжнеўскія замаразкі. Доўга не мог убачыць свет. У рамане паэт застаецца верны сваёй манеры, бо гэта проза паэта.

Вершы Міколы Аўрамчыка беларускія сваёй канкрэтнасцю і акрэсленасцю, сваёй прыхаванай глыбінёй і стрыманасцю, сваёй радасцю і замілаванасцю. Сын свайго часу паказаў час, як ён бачыў яго, як адчуваў яго, не хлусячы, не становячыся на катурны. Радасць жыцця, радаванне жыццю ў Міколы Аўрамчыка можна зразумець. Ён сам гаворыць пра сябе ў вершы, прысвечаным Васілю Быкаву:

Вам чэсць аддае з пашанай —
Уваскросшы з мёртвых, жывы,
Без вестак прапаўшы рана
Гвардыі радавы.

Паэт сябе адчувае радавым, але без радавых няма арміі, без радавых няма войска. Якраз радавыя займаюць вышыні, а генералы толькі рапартуюць. Так і ў арміі, так і ў паэзіі.

Душэўная шчырасць спрыяе таму, што Мікола Аўрамчык надзвычай добра піша успаміны, эсэ, словы пра сяброў, асабліва пра франтавых, якія самі пра сябе ўжо не скажуць. Гэтак не перапыняецца, не перарываецца бег плыні жыцця, плыні, на якую паэт Мікола Аўрамчык глядзіць замілаванымі вачыма ўзнёсла і трапятліва.

**Рыгор БАРАДУЛІН**




**«ТУТ МОЙ НАРОД». Ва ўсім свеце адзначаецца сёлета вялікая дата — 500-годдзе з дня нараджэння Францішка Скарыны, славутага асветніка-гуманіста эпохі Адраджэння, першадрукара, геніяльнага сына беларускага народа. Гэтай магутнай постаці прысвечана кніга кандыдата гістарычных навук А. Каўкі, якая даследуе і вывучае тэксты скарынінскіх выданняў, малавядомыя архіўныя крыніцы, разглядае ўплыў асветніка на беларускую літаратуру XVI — пачатку XX стагоддзя і ўвогуле на ўсё нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа.**

**Ва ўступе да кнігі аўтар піша: «Літаратура пра Францішка Скарыну налічвае не адну тысячу публікацый. Мала хто з дзеячаў беларускай культуры можа спаборнічаць з выдатным гуманістам-асветнікам узроўнем папулярнасці, няспынным ростам цікавасці айчынных і замежных даследчыкаў. І ўсё ж ні асоба слыннага беларуса, ні**

значэнне яго творчай спадчыны яшчэ далёка не раскрыты, не асэнсаваны, не ацэнены, як яны таго заслугоўваюць».

Менавіта асэнсаванню слыннай асобы і прысвечана гэтая кніга, якая мае раздзелы: «Дзе нараджаюцца волаты», «Няма прароку месца», «Хто ён, доктар Скарына?», «І сталі беларусы прачыхацца», «Па-нашаму напісана!», «Каб не дрэмала памяць» і інш.

У кнізе шмат фотаздымкаў — паштоўка з архіва Зоські Верас, прысвечаная 400-годдзю беларускага кнігадрукавання; Полацкае Евангелле і Слуцкі памяннік; будынкі Ягелонскага і Падуанскага універсітэтаў; камяніца бурмістра Якуба Бабіча ў Вільні, дзе ў 1522—1525 гг. месцілася друкарня Ф. Скарыны; старонка, прысвечаная першадрукару, з рукапісу «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкага і іншыя матэрыялы.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«СЛОВА АБ РОДНАЙ ПРЫРОДЗЕ».** Гэта трэцяе, перапрацаванае і дапоўненае выданне кнігі, якая сабрала ў сабе ўсё самае лепшае, што створана беларускімі пісьменнікамі — паэтамі і празаікамі — аб роднай прыродзе.

Кніга дае магчымасць чытачу пазнаёміцца з рознымі, цікавымі і непаўторнымі, куткамі нашага краю, пабываць адразу ва ўсіх чатырох часінах года і пераканацца, што наша Беларусь прыгожая заўсёды — вясною і летам, восенню і зімой.

Дзякуючы шырокаму, хоць і ашчаднаму прадстаўніцтву, ствараецца ўражанне, што ў гэтай шчырай і даверлівай размове брала ўдзел уся беларуская літаратура.

Укладанне кнігі Сцяпана Грабчыкава. Ён жа напісаў і прадмову да яе.

Выданне адрасуецца вучням сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту, і вельмі б добра было, каб кнігу набыла кожная школьная бібліятэка.

Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1989 г.

**«ЗБОР КАЛОССЯ».** «Чыстае фальклорнае гучанне, — гаворыцца ў анатацыі да гэтай кнігі, — зварот да вытокаў народнай мудрасці, сталёвая дасканаласць з'яднаны ў творчасці народнага паэта Беларусі лаўрэата Ленінскай прэміі, Героя Сацыялістычнай Працы Максіма Танка з разуменнем паэзіі як найвышэйшай праявы грамадзянскасці».

У новую кнігу сваю паэт уключыў вершы, напісаныя ў 1983—1988 гг.

Кітай і Украіна, Енісей і Махабхарата, Міхайлаўскае і Праметэй — вось крыніца натхнення, да якой прыпадае паэт. Але найперш — родная Беларусь, яе палі, лугі і лясы, яе людзі і надзеі даюць моц радкам Максіма Танка.

Аформіў кнігу мастак В. Масцераў. Малюнкі да яе зрабіў мастак Ю. Зайцаў.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ВЕРШЫ 1931—1970»** — томік выбранай паэзіі выдатнага рускага паэта Аляксандра Твардоўскага, які выйшаў у перакладзе на беларускую мову. У прадмове да зборніка «Ён тут дома» Максім Лужанін піша, што «...аўтар наш блізкі сусед і сваяк, смаленец, што ў ім жыла вялікая любоў да нашага народа, сімпатыя да ягонай літаратуры, угрунтаваная на побытавай і гутарковай блізкасці жыхароў сумесных раёнаў Беларусі і Смаленскай вобласці».

Вершы А. Твардоўскага падаюцца ў перакладах К. Крапівы, А. Куляшова, М. Танка, М. Лужаніна, В. Віткі, К. Кірэенкі, Э. Агняцвет, М. Калачынскага, П. Макаля, Р. Барадуліна, А. Грачанікава, У. Паўлава, Хв. Жычкі і К. Цвіркі.

Кніга выйшла ў серыі «Паэзія народаў СССР».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«У ТУМАНЕ».** У кнігу народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава ўвайшлі дзве новыя аповесці, напісаныя ў апошнія гады. Першая, якой пачынаецца кніга і якая дала назву зборніку, прысвечана тэме Вялікай Айчыннай вайны, партызанскай барацьбе беларускага народа.

Другая аповесць, «Аблава», якая завяршае кнігу, расказвае пра гады калектывізацыі, гады раскулачвання, гады сталінскіх рэпрэсій. У ёй на прыкладзе жыцця селяніна Хведара Роўды падаецца лёс усяго беларускага сялянства.

Ёсць у кнізе яшчэ адна аповесць — «Мёртвым не баліць». Напісана яна амаль дваццаць пяць гадоў назад, але асобным выданнем не выходзіла (была толькі ўключана ў чацвёрты том збору твораў пісьменніка). Зараз, дзякуючы перабудове, чытач можа пазнаёміцца і з гэтым творам Васіля Быкава.

Малюнкі да кнігі зрабіў мастак Уладзімір Сытчанка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ВЯРТАННЕ ДА СЯБЕ»** — новы раман Міхася Герчыка. У ім — сучасныя канфлікты, сучасныя лёсы. Усе людзі, як пішацца ў анатацыі, «мараць пра шчасце, але далёка не ўсе сапраўды шчаслівыя». Пошукі выйсця з духоўных тупікоў — вось клопат і ўвага пісьменніка.

Эпіграфам да твора аўтар узяў радкі з Ф. М. Дастаеўскага: «Літасць, не праганяйце літасці з нашага грамадства, таму што без яе, без літасці, яно разваліцца».

У выданні друкуюцца ілюстрацыі мастака А. Кузьмара.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«СПРАДВЕЧНАСЦЬ».** У гэтую кнігу выбраных твораў Раман Тармола ўключыў усё лепшае, што створана ім у паэзіі на працягу дваццаці пяці гадоў творчай працы.

У кнігу апрача вершаў таксама ўключаны дзве паэмы — «Навальнічны раён» і «Хатынскі рэквіем».

Усе творы аб'яднаны ў пяць раздзелаў: «І радасць, і роздум, і роспач», «Не ложа Пракруста», «Час папараць-кветкі», «Я перастаў саромецца слёз», «На скрыжаванні гадоў і дарог».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ФРЭСКІ».** Кніга паэзіі Ірыны Багдановіч — і гістарычная і сучасная. У ёй друкуюцца вершы «Няміга», «Домік Багдановіча», «Полацкай Сафіі» (раздзел «Стары горад»), «У вянок Каміле Марцінкевіч», «Купала, 1918 год», «Памяці Сяргея Астрэйкі» (раздзел «Постаці»), філасофскія вершы і вершы пра каханне (раздзелы «Фрагменты» і «Альбом»), а таксама паэма «Кераміка», дзе размова ідзе пра працу археолагаў, і «Палачанка», галоўнаю гераіняю якой з'яўляецца Рагнеда.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ПРЫРУЧЭННЕ ПТУШКІ».** Кнігу прозы Уладзіміра Ягоўдзіка склалі розныя па жанрах творы.

Пачынаецца кніга з аповесці «Вочы начніцы», якая раней ужо выйшла ў «Бібліятэцы «Маладосці».

У раздзеле «Сонечная далонь» сабраны апавяданні, казкі і эсэ пісьменніка.

Друкуецца таксама эсэ «Райскія сны Алены Кіш», дзе расказваецца пра нялёгкі, трагічны лёс мастачкі з народа, пра яе незвычайнае, чыстае і светлае, мастацтва.

Малюнкі мастака Уладзіміра Савіча.

На грамадскіх пачатках кнігу адрэдагаваў Яўген Лецка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ФАРБЫ ДУШЫ»** — першая кніга маладога пісьменніка Алеся Асташонка. У яе ўключаны сем апавяданняў, дзве нізкі кароткіх назіранняў, экспрэсій, аб'яднаных агульным падзагалоўкам «Настроі», а таксама аповесць «Малюнкі на попеле».

Кароткім уступным словам прадстаўляе аўтара чытачам Алесь Адамовіч.

Зборнік выйшаў у серыі «Першая кніга празаіка».

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«А ЗЯЗЮЛЯ КУКАВАЛА».** Галоўнаю ў новым зборніку прозы Алеся Казаннікава, на нашу думку, з'яўляецца аповесць, якая дала назву і ўсёй кнізе. Яна — пра веліч душы чалавека і вытокі яго мужнасці.

Дапаўняюць твор і змешчаныя ў зборніку апавяданні пісьменніка.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ВЫБРАНАЕ»** Варлена Бечыка — найбольш поўнае выданне літаратурна-крытычных артыкулаў са спадчыны гэтага тонкага, улюбёнага ў беларускую літаратуру (асабліва ў паэзію) крытыка.

«Прабачце, — пісаў В. Бечык у сваіх успамінах. — Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43—44-га гадоў, я быў інвалідам другой групы, я не буду мець уласных дзяцей, і наўрад ці прыйдзе хто на маю магілу».

Але як ён любіў жыццё!

«Я пачынаю ўсё болей і болей схіляцца да думкі, што жыццё — любое, нават самае пакутлівае, — шчасце. Уся каштоўнасць жыцця толькі тады і мае мэту, калі зведаны трывогі, сумненні, пакуты».

Багатая атрымалася кніга. У ёй і лёгкі, як усплёск, усхваляваны маналог пра адзін толькі верш Янкі Купалы «У лесе», і грунтоўнае даследаванне паэзіі Вялікай Айчыннай вайны, і роздумны агляд беларускай балады, і неспакойнае слова ў дыскусіі пра сучасную паэзію.

Цэлы раздзел у кнізе аддадзены паэзіі Аркадзя Куляшова. У асобных артыкулах крытык разглядае творчасць П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, М. Лужаніна, Е. Лось, А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Я. Сіпакова, А. Кудраўца, Р. Барозкіна, В. Каваленкі і інш.

Друкуюцца ў «Выбраным» і вострыя артыкулы крытыка, якія ў свой час спадабаліся нават пераборліваму чытачу: «Сакавіцкія пісьмы», «Толькі без «сю-сю», «Набыццё вышыні» і інш.

Укладанне тома зрабіла маці крытыка — Л. Кароткая. Прадмову «Свой у свеце літаратуры» напісаў С. Андраюк.

У томе шмат фотаздымкаў.

На вялікі жаль, у кнігу не ўвайшоў (мусіць, не паспелі ўключыць) дзённік В. Бечыка, які друкаваўся ў «Полымі», — мудрыя развагі крытыка пра час і жыццё.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

**«ЛЯ ВЫТОКАЎ САМАПАЗНАННЯ».** «Гэта кніжка, — тлумачыць чытачам у сваёй прадмове доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, — была задумана каля дзесяці гадоў таму назад. Нялёгка было ўзяцца за працу, дзе аўтар мае намер па магчымасці спалучыць філасофію і фалькларыстыку, навуковы аналіз і публіцыстыку, спрабуе «перакласці» фальклорныя мастацкія вобразы і сімвалы ў сістэму паняццяў, узнавіць народны светапогляд на падставе паасобных яго фрагментаў, знакаў і традыцыйных формул, у якіх нярэдка паўзабыта ці нават страчана першапачатковае сэнсавае значэнне».

Кніга мае падзагаловак «Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору» і даследуе маральна-эстэтычную каштоўнасць народнай творчасці, яе месца ў сучаснай культуры, сцвярджае, што народныя песні і казкі — высокаразвітае мастацтва, у якім адлюстраваўся духоўны свет народа.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1989 г.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА НА МОВАХ СВЕТУ

**«АКНО Ў ЗЯЛЁНЫ САД».** Своеасаблівая анталогія беларускага апавядання выйшла ў Літве. У яе ўвайшлі творы Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, М. Лынькова, І. Шамякіна, І. Мележа, Я. Сіпакова, Я. Маўра, І. Навуменкі, В. Быкава, М. Стральцова, А. Васілевіч, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, У. Караткевіча, В. Адамчыка, І. Пташнікава, В. Карамазава, А. Кудраўца, В. Віткі, Я. Брыля, В. Гігевіча, А. Жука, Г. Далідовіча, Я. Каршукова, В. Коўтун, Х. Лялько, У. Арлова, У. Ягоўдзіка (спіс падаецца ў тым парадку, у якім друкуюцца ў зборніку творы).

На літоўскую мову апавяданні пераклала Алма Лапінскене.

Укладанне Яўгена Лецкі.

Кніга выйшла ў серыі «Парасткі».

Выдавецтва «Вітурыс», Вільнюс, 1989 г.

**«ВЯНОК».** Яшчэ адну беларускую кнігу маюць зараз магчымасць чытаць на роднай мове літоўскія чытачы. Гэта — вядомы «Вянок» Максіма Багдановіча.

На літоўскую мову вершы паэта пераклаў Антанас Дрылінга.

Выдавецтва «Вага», Вільнюс, 1989 г.

**«СОНЕЧНАЯ ВЯЗЬ».** Імя Яна Чыквіна, беларускага паэта, які жыве ў Польшчы, вядома нашаму чытачу. Зараз з яго паэзіяй маюць магчымасць бліжэй пазнаёміцца і польскія чытачы — кніга перакладзена на польскую мову і надрукавана ў Ольштыне.

З беларускай мовы на польскую вершы пераклалі Эльжбета Феліксяк. Марыян Юркоўскі, Ян Леанчук, Ежы Літвінюк, Фларыян Няўважны і Віктар Варашыльскі.

Вершы ў кнізе падаюцца на беларускай і польскай мовах.

Выдавецтва «Поезіржэ», Ольштын, 1988 г.

## *Нашы аўтары*

**ПЯТКЕВІЧ Андрэй** нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Уселюб на Навагрудчыне. Вучыўся ў Гродзенскім універсітэце, працаваў пажарнікам, дрывасекам, меліяратарам, качагарам. Зараз—палявод у калгасе «Краіна Саветаў» у Навагрудскім раёне.

**ЗУЁНАК Васіль** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна. Скончыў Барысаўскае педвучылішча і аддзяленне журналістыкі філфака БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях газет «Рабочае юнацтва», «Піянер Беларусі», часопісах «Бярозка», «Маладосць». Зараз—першы сакратар СП БССР. Кандыдат філалагічных навук.
Аўтар кніг паэзіі «Крэсіва», «Крутаяр», «Сяліба», «Нача» і інш. Напісаў шмат кніжак нарысаў, замалёвак, вершаў для дзяцей. Працуе ў галіне перакладу.
Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

**ШАМЯКІН Іван** нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Карма Добрушскага раёна. Скончыў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў, Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. Вучыўся ў Гомельскім педінстытуце, настаўнічаў.
Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Доўгі час быў сакратаром, першым намеснікам старшыні, першым сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Зараз—галоўны рэдактар выдавецтва БелСЭ імя Петруся Броўкі.
Народны пісьменнік БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР.
Аўтар раманаў «Глыбокая плынь», «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль», «Петраград—Брэст», а таксама шматлікіх кніг аповесцей, апавяданняў, публіцыстыкі.

**МАРОЗ Уладзімір** нарадзіўся ў 1953 годзе ў горадзе Косава Івацэвіцкага раёна. Скончыў архітэктурны факультэт БПІ, Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Працаваў інжынерам на «Інтэграле», архітэктарам у «Мінскпраекце», старшым рэдактарам Дзяржкіно БССР. Зараз—старшы рэдактар студыі «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».
Аўтар калектыўнага паэтычнага зборніка «Крыло» і шэрагу кінасцэнарыяў.

**ДАЙНЕКА Леанід** нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Змітраўка Другая Клічаўскага раёна. Пасля заканчэння школы працаваў на будоўлях Калінінграда і Свярдлоўскай вобласці, на Ніжнетагільскім металургічным камбінаце. Служыў у Савецкай Арміі. Скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў старшым рэдактарам Віцебскай студыі тэлебачання, на Беларускім тэлебачанні, адказным сакратаром часопіса «Маладосць». Цяпер—загадчык рэдакцыі паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура».
Аўтар зборнікаў паэзіі «Галасы», «Бераг чакання», «Начныя тэлеграмы», «Мая вясна сакавая», зборніка апавяданняў «Бацькава крыніца», раманаў «Людзі і маланкі», «Запомнім сябе маладымі», «Футбол на замініраваным полі», «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака» і інш.
Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Івана Мележа.

**РУДКОЎСКІ Міхась** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Востраў Ганцавіцкага раёна. Завочна скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна.
Выдаў кнігі паэзіі «Сінія Брады», «Позвы», «У краі тым», «Векавечная бацькаўшчына».

**ВЕТАХ (БЕЛЬСКІ) Алесь** нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна. Працаваў старшым піянерважатым у школе. Скончыў філфак БДУ імя Леніна. Настаўнічаў, быў намеснікам дырэктара школы. Зараз вучыцца ў аспірантуры пры кафедры беларускай літаратуры БДУ імя Леніна. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў гарадскім пасёлку Мір Карэліцкага раёна. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага. Працаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», зараз—на Беларускім тэлебачанні.
Аўтар кніг паэзіі «Асколкі і росы», «Поўня», «Аднаўленне», «Міранка», «Побач», «Павага», «Зямное—зямному» і інш.

---

**«МОЛОДОСТЬ» № 1 (1—176), 1990 г.**
**Ежемесячный литературно-художественный**
**и общественно-политический иллюстрированный журнал**
(на белорусском языке)

Мастацкі рэдактар **Віктар Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Яніна Важнік.**
Карэктары **Валянціна Башак, Мая Вінаградава.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.
Адрас рэдакцыі: 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79, выдавецтва ЦК КПБ. Тэлефоны: 31-85-43—галоўны рэдактар і намеснік галоўнага рэдактара, 32-82-29—сакратарыят, аддзелы паэзіі, прозы, крытыкі, 31-76-14—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 39-87-70—фотакарэспандэнт.

Здадзена ў набор 20.11.89. Падпісана да друку 22.12.89. АТ 06925. Фармат 70×90 1/16. Друк высокі. Умоўн. фарбаадб. 14,77. Умоўн. друк. арк. 12,87. Ул.-выд. арк. 14,58. Тыраж 8 988 экз. Зак. 486. Цана 60 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі пр., 79.



# ВІНШУЕМ ЛАЎРЭАТАЎ!


Сяргей Астраўцоў


Людміла Рублеўская


Алесь Бяляцкі


Уладзімір Глушакоў


Міхал Анемпадзістаў

Рэдакцыя часопіса «Маладосць» разгледзела публікацыі 1989 года і прысудзіла прэміі за лепшыя творы:
**Людміле Рублеўскай** (цыкл вершаў, № 7);
**Сяргею Астраўцову** (апавяданні «Сурма», «Валатоўка», № 11);
**Алесю Бяляцкаму** (артыкул «Да гісторыі адной палемікі», № 1);
**Уладзіміру Глушакову** (артыкулы «Старая сядзіба», № 1, і «Арандатары і гаспадары», № 9);
**Міхалу Анемпадзіставу** (мастацкае афармленне вокладак часопіса 1989 г., №№ 1—12).